BULK RATE
US POSTAGE
PAID
Grand Rapids, MI
Permit No. 1141



# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА ў АМЭРЫЦЫ

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 6(54) Ліпень 1998 July Год выд. 6.

**“Беларускія палітыкі і шматлікія грамадзкія старшыні па старой рабскай прывычцы дружна абіваюць крэмлёўскія ды іншыя маскоўскія парогі. Хадакі З Менску стапталі ў Маскве вялікую колькасьць лапцяў з надзеяй заручыцца падтрымкаю «старэйшага брата».**

**Пруцца на ўсход табуном ня толькі Лукашэнка са сваёй рускай камандай, але і апазыцыйныя дзеячы рознага толку і накірунку...**

**Гледзячы на гэта неяк робіцца сорамна за Беларусь і яе абалваненае насельніцтва... Такое адсталасьці, бездухоўнасьці і бесхрыбетнасьці няма ў ніводнай краіне Эўропы...**

Паводле заявы “Сусьветнай службы Беларускага Збройнага Чыну”.

Голас з-за кратаў

*Аляксей ШЫДЛОЎСКІ:*

## “Я ўсё вытрымаю і буду побач з вамі”

*Шаноўная рэдакцыя!*

*Гэта я, вязень Аляксей Шыдлоўскі. Не здзіўляйцеся, атрымаўшы ад мяне гэты ліст. Да вашае газеты я маю вялікую сімпатыю, і раней, будучы на волі, не раз у вас друкаваўся.*

*Цяпер рэжым ізаляваў мяне ад грамадства. Я пазбаўлены магчымасці жыць, я толькі існую. Але праз дзевяць месяцаў настане для мяне Дзень волі. Я выйду на свабоду!*

*Колькі ў мяне ўражанняў, колькі цікавейшага матэрыялу накапілася за гэты час! Спадзяюся, вы дасцё мне магчымасць азнаёміць з імі вас і вашых чытачоў, калі я буду вольны.*

*А пакуль хацеў бы праз “Народную волю” як вязень сумлення звярнуцца да землякоў, усіх людзей добрай волі з наступным лістом:*



Беларусы! Браты і сёстры! Шаноўныя суайчыннікі!

Улада адлучыла мяне ад вас на доўгія 18 месяцаў. Палова тэрміну зняволення ўжо мінула. Мяне хацелі маральна знішчыць, паставіць на калені. Але я скажу цвёрда і ўпэўнена: НЕ! Мяне не зламалі, не заставілі здрадзіць сваім поглядам, заплюшчыць вочы на тое, міма чаго праходзіць нельга, на страшэннае беззаконне, якое пануе ў краіне.

Каб вы толькі ведалі, колькі людзей тут, у турме, сядзіць з-за нейкай дробязі ці непаразумення, марнуючы за кратамі самае дарагое і незваротнае — гады жыцця. Мяне пазбавілі сям'і — дарагіх маіх маці, бацькі, меншага брацiка і маладой жонкі. Пазбавілі вучобы і працы, радасці жыцця, магчымасці дыхаць свежым паветрам, любавацца веснавой зелянінай і квеценню.

Знаю, калі я выйду на свабоду, мне таксама будзе нялёгка. Да чалавека з “зоны” — адносіны вядомыя. Але і гэта не спыніць мяне ў змаганні за Бацькаўшчыну, яе будучыню. А таму я кажу вам зноў і зноў: ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ! І будзе жыць, пакуль будзе жывы хоць адзін беларус, які не змірыцца з гвалтам, здрадніцтвам, злачынствам.

Я ведаю: мы, хто любіць сваю Беларусь і пратэстуе супраць яе зняволення, робім правільна. Я не сумняваюся ў гэтым ні на хвіліну. Менавіта мы, а не хаўруснікі дыктатуры, павінны вырашыць лёс краіны.

Праз некалькі месяцаў я буду побач з вамі, плячо ў плячо. Я ўсё вытрымаю. Бо хачу, каб мае яшчэ не народжаныя дзеці жылі ў вольнай і незалежнай Беларусі.

Закончыць гэты ліст мне хацелася б блізкімі па духу радкамі беларускага паэта — былога вязня ГУЛАГа Міколы Хведаровіча:

*Я маладосць аддам,*
*Аддам юнацтва, сілу,*
*Аддам сваё жыццё*
*Прыгожай яве дзён,*
*Каб ліхалецце нас*
*Дачасна не скасіла.*
*Нам светлы шлях*
*Наперадзе відзён!*
Яшчэ раз —
***ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!***

Трымайцеся, дарагія браты і сёстры!

**Вечны слуга народа, палітвязень**
**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ.**
220079 Мінск, УЖ 15/1, п/с 35/1 “К”.

***“Беларускі Дайджэст”* патрабуе Вашае дапамогі!!!**





**Сп. Багдан «Данчык» Андрусышын**

ведамы беларуска-амэрыканскі сьпявак, грамадзка-культурны дзеяч на незалежніцкай ніве і вялікі патрыёт беларускага народу.

Дарагі Спадар Данчык! Вітаем Вас на старонках нашае незалежнае газэты.



## ЗАХОДНІЯ ДЫПЛЯМАТЫ ПАКІДАЮЦЬ БЕЛАРУСЬ

Краіны Заходняе Эўропы адклікалі сваіх амбасадараў з Беларусі пратэстуючы гэтым супраць агранічэньня іх дыпляматычных правоў дыктатарскім рэжымам Лукашэнкі. ЗША, Японія і іншыя караіны адклічуць сваіх амбасадараў у хуткім часе.

Па загаду Лукашэнкі ў рэзыдэнцыях замежных дыпляматаў, што жывуць у прыгарадзе Менску — Драздзы, была адключана вада, электрычнасьць і тэлефонная сувязь. У сваю чаргу Нямеччына ўжо загадала беларускаму амбасадару ў Боне пакінуць краіну з прычыны дыпляматычнага хамства беларускага рэжыму.

А. Лукашэнка, нядаўні калгасны работнік, разагнаў беларускую апазыцыю, а цяпер хоча разагнаць замежных дыпляматаў. Прычынаю гэтаму прад'яўляе, быццам-бы, патрэбу рамонту каналізацыі. Перад уездам у рэзыдэнцыі заходніх дыпляматаў халуі Лукашэнкі выкапалі равы-канавы, што перашкаджае ўезду на тэрыторыю рэзыдэнцыяў.

Лукашэнка задраўся як калгасная жаба з чарадою заходніх буслоў і ястрабаў. Паглядзім чым скончыцца гэтая лукашэнкаўская дзярэвеншчына...

## ПАВАЛ СЕВЯРЫНЕЦ НА ВОЛІ

Лідэр Беларускага Маладога Фронту Павал Севярынец адпушчаны з турмы, пад распіску аб нявыязьдзе, на волю. За два месяцы турэмнага зьняволеньня Паўла Севярынца здавалася, што ўжо не дапамогуць ні газэтныя артыкулы, ні пікеты, ні дэманстрацыі ў ягоную падтрымку, але 3-га чэрвеня Паўла Севярынца адпусьцілі на волю да бацькоў у Віцебск. Тэрмі-жа сьледзтва, аднак, прадоўжылі яшчэ на месяц.

Як вядома Паўла Севярынца арыштавалі і трымалі ў турме за палітычную дзейнасьць. Ён выступаў і выступае за незалежнасьць, за беларускую Беларусь.

Вітаем Паўла на волі і жадаем яму вытрываласьці, адвагі, мужнасьці, патрыятычнага гарту ды ўсяго найлепшага...

**BELARUSIAN DIGEST**
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.
Phone: (616) 942-0108;—Fax: (616) 942-6364

Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

Расьціслаў ЗАВІСТОВІЧ (ЗША)

## ПАШЫРЭНЬНЕ ПАЎНОЧНА-АТЛЯНТЫЦКАГА САЮЗУ

30-га красавіка 1998 г. Сэнат Злучаных Штатаў Амэрыкі ратыфікаваў пагадненьне, падпісанае прэзыдэнтам Клінтанам і кіраўнікамі 16-ці заходне-эўрапейскіх краінаў — членаў Паўночна Атлянтыцкага Саюзу (НАТА), пра пашырэньне гэтае абаронче арганізацыі, прыймаючы ў свае шэрагі Вэнгрыю, Польшчу і Чэхію. За ратыфікацыю пагадненьня галасавала пераважная бальшыня (80 галасоў) членаў Сэнату з абодвух, дэмакратычнай і рэспубліканскай партыяў. Праз тры тыдні, 21-га траўня, сэнацкая ратыфікацыя прыняла сілу закону. Яна была падпісана аўтарам ідэі пашырэньня НАТА, прэзыдэнтам Клінтанам, у Белым Доме.

Беларускі Кангрэсавы Камітэт Амэрыкі і 17 іншых арганізацыяў амэрыканскіх этнічных групаў, якія належаць да Цэнтральнай і Ўсходне-Эўрапейскай кааліцыі, актыўна падтрымоўвалі гэтую прапанову ад самага пачатку існаваньня ідэі павялічэньня НАТА, бо былі пераканаваныя ў тым, што НАТА гэта ня толькі вайсковы саюз дэмакратычных краінаў Заходняй Эўропы, Злучаных Штатаў і Канады, а і палітычнае і эканамічнае аб'яднаньне вольных народаў Эўропы і Паўночнай Амэрыкі, якія спрыяюць пашырэньню волі і незалежнасьці сярод іншых краінаў сьвету. На ўрачыстае падпісаньне ратыфікацыйных дакумэнтаў у Белым Доме былі запрошаны прадстаўнікі арганізацыяў, якія ўваходзяць у Кааліцыю. Беларускі Кангрэсавы Камітэт быў прадстаўлены ягоным старшынёй, аўтарам гэтых радкоў.

Двойчы ў гэтым стагодзьдзі, перш у Мюнхэне, напярэдадні Другой сусьветнай вайны, а пасьля ў Ялце ў канцы таго жахлівага канфлікту, заходнія дзяржавы адступілі перад дыктатурай і аддалі вялікую частку гістарычнае Эўропы ў рукі перш Гітлера, а пасьля Сталіна. Таму пашырэньне НАТА можна разглядаць ня толькі як папраўку памылак, зробленых 50 гадоў таму, але як крок, які гарантуе, што Эўропа ніколі ўжо ня будзе аб'ектам блізарукае палітыкі, нягледзячы на тое наколькі ў цяперашні час, пасьля распаду савецка-расейскае імпэрыі, неверагодным здаецца паўтарэньне такіх памылак, бо-ж згінулі, маўляў, ворагі...

Напрацягу амаль паловы стагодзьдзя вяртаньне краінаў цэнтральнай і ўсходняй Эўропы да іхных гістарычных і культурных каранёў ставілася на другое месца пасьля галоўнае мэты — захаваньня ядзернага міру. Таму канец халоднай вайны зрабіў гэтае вяртаньне ня толькі палітычна магчымым, але маральна неабходным. Трэба было, каб жалезная заслона, тая штучная лінія, якою Сталін падзяліў быў Эўропу, была назаўсёды зьнішчана. Эўропа павінна быць аб'яднанай, дэмакратычнай і вольнай. Краінам Эўропы павінна быць гарантавана бясьпека, бо толькі тады яны зробяць Эўропу квітнеючым кантынэнтам.

Ад пачатку стварэньня, Паўночна-Атлянтыцкі Саюз прадугледжваў сваё пашырэньне новымі членамі — дэмакратычнымі краінамі, якія, у палітычным аспэкце, трымаюцца прынцыпаў свабоды, пашаны правоў чалавека і старшынства цывільных уладаў над вайсковымі ў вайсковых справах, а ў галіне эканомікі — вольнага рынку. За сваё 49-ці гадовае існаваньне, НАТА ня толькі затрымала савецкую экспансію ў Эўропе, але зрабілася тою арганізацыяй, якая гарантавала мір у цэлым сьвеце. Дзякуючы існаваньню НАТА была створана атмасфэра прымірэньня, а пасьля і цеснага супрацоўніцтва паміж двума доўгі час варожымі краінамі — Нямеччынай і Францыяй. Без супрацоўніцтва гэтых двух вядучых краінаў Заходняе Эўропы цяжка нават было-б і думаць пра стварэньне Эўрапейскага Саюзу. Таму можна не сумнявацца, што пашырэньне НАТА будзе мець ня менш прымірэнчы эфэкт на адносіны паміж Польшчай і Чэхіяй з аднаго боку і Нямеччынай з другога. У пэрспэктыве можна спадзявацца, што працэс прымірэньня будзе пасунуты на Ўсход і далучыць да свайго ўплыву сёньня яшчэ варожую да НАТА Расею. Хочацца верыць, што хоць і ў далёкай пэрспэктыве, але гэты працэс дойдзе і да незалежнай Беларусі, амаль уся гісторыя якой цесна павязана з Эўропай.

Пераглядаючы вельмі карысную дзейнасьць Паўночна-Атлянтыцкага Сюзу на працягу 49-ці гадоў ягонага існаваньня, робіцца незразумелым, што некаторыя нашыя людзі, пераважна амэрыканскія грамадзяне, ня бачаць тае карысьці для Эўропы, Злучаных Штатаў і Беларусі, якую нясе пашырэньне гэтага абарончага сюзу. Мабыць баючыся ўгнявіць Расею, яны выказваюцца супраць павялічэньня НАТА і, гэтым самым, міжвольна салідарызуюцца з расейскімі вялікадзяржаўнікамі і іхнымі паслугачамі на нашай Бацькаўшчыне. (Цікава, што нашыя Балтыцкія суседзі і Ўкраіна падтрымоўваюць пашырэньне НАТА, не баючыся гневу Расеі). У красавіцкім нумары газэты «Беларус» паведамлялася, што падчас сьвяткаваньня 80-х угодкаў Беларускай Незалежнасьці ў адным нашым асяродку была нават прынятая рэзалюцыя, якая заклікала Сэнат Злучаных Штатаў не галасаваць за пашырэньне НАТА. Калі-б Расея была дэмакратычнаю краінаю, дык боязь угнявіць яе можа і мела-б пэўны сэнс. Але-ж гісторыя пашырэньня не НАТА, а якраз Расеі, гаворыць зусім адваротнае. Кліч, кінуты расейскім паэтам-дыплёматам Хведарам Цютчавым у першай палове 19-га стагодзьдзя, — "Умом Россию не понять... В Россию можна только верить..." ня страціў свае надзённасьці сярод урадавых колаў сёньняшняе Расеі. Аб'ектыўна думаючы назіральнік, аднак, з "вервю ў Расею" будзе мець неадольныя праблемы...

Трэба, аднак, прызнаць, што час працуе на карысьць свабоды нават у Расеі. Апошнім часам там, на палітычную арэну, выйшла значная колькасьць аўтарытэтных палітыкаў, якія не пагаджаюцца з антынатаўскімі поглядамі сваіх уладаў. Хоць іхны ўплыў на "вялікую палітыку" яшчэ неадчувальны, хочацца верыць, што ён будзе расьці. Гэтак, у канцы мінулага году, прафэсар Юры Давыдаў у вельмі аўтарытэтным часопісе «США» пісаў, што новыя краіны НАТА, адчуваючы большую самаўпэўненасьць і бясьпеку, будуць больш шчырымі ў сваіх дачыненьнях да Расеі, ня будуць яе баяцца і, гэтым самым, змогуць хутчэй пайсьці насустрач Расеі, пракладаючы ёй шлях у Заходнюю Эўропу.

## Беларуская апазыцыя зьмяняе накірунак?

Нядаўна лічная дэлегацыя беларускіх парлямэнтарыяў Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня, на чале з С. Шарэцім, наведала Польшчу. Дэлегацыя прыбыла ў Варшаву на запрашэньне Польскага сойму. Палякі прымалі беларускіх калегаў вельмі прыязна. Беларусы правялі шмат афіцыйных размоў і спатканьняў на самым высокім узроўні. Трэба ведаць, што палякі не прызнаюць "карманных дзепутатаў" назначаных Лукашэнкам. Яны прызнаюць толькі, як і ўся Эўропа, беларускі парлямэнт 13-га скліканьня.

Цікава тое, што прэзыдэнт Польшч Квасьнеўскі прыняў С. Шарэцкага на прыватнук размову, якая доўжылася цэлую гадзіну.

Хочацца спадзявацца, што пасьл. абтоптваньня маскоўскіх парогаў, беларуска. апазыцыя, нарэшце, павярнулася тварам н Захад, ды можа пачне з ім супрацоўнічаць.

## 725 беларусаў выйгралі іміграцыйную візу

Дзяржаўны дэпартамэнт ЗША аб'явіў вынікі штогадовай латарэі ў ліку 50 тысячаў візаў, што даюць права на пастаяннае жыхарства ў Амэрыцы. Згодна з паведамленьнем Інфармацыйнай службы ЗША USIS, у сьпісе пераможцаў латарэі — 725 чалавек з Беларусі. Гэта дзесятае месца ў сьпісе з 57-мі эўрапейскіх краінаў; першынствуюць у ім Украіна (5047 пераможцаў латарэі), Албанія (4482) і Расія (4415). Акрамя Эўропы, гэтыя візы разьмяркоўваюцца яшчэ ў пяці геаграфічных рэгіёнах (Афрыка, Азія, Акіянія, Паўночная і Паўднёвая Амэрыка).

Нацыянальны візавы цэнтр у Пртсмуце (штат Нью-Гэмшыр) ужо разаслаў пераможцам латарэі паведамленьні пра парадак атрыманьня іміграцкай візы. Падчас гутаркі аб выдачы візы ў амбасадзе прэтэндэнты павінны прадставіць доказы наяўнасьці ў іх сярэдняй адукацыі або пацьвердзіць, што ня менш за два гады працавалі па спэцыяльнасьці, якая патрабуе сярэдняй адукацыі. Невукаў амэрыканцы ня хочуць...

## НАВУКОВАЯ КАНФЭРЭНЦЫЯ Ў БЕЛАСТОКУ

Навукова-практычная канфэрэнцыя — «Культура і адукацыя беларускага замежжа» адбудзецца 18-19 ліпеня 1998 году ў Беластоку. Канфэрэнцыю ладзяць Згуртаваньне беларусаў сьвету "Бацькаўшчына", Беларускі саюз у Польшчы, Беларускае гістарычнае таварыства ў Польшчы і Беларускае літаратурнае аб'яднаньне "Белавежа".

У праграме канфэрэнцыі прадугледжваюцца пленарныя пасяджэньні, вандроўка па мясьцінах Беластоку, паездка на фэстываль беларускай песьні "Басовішча", перамовы, абмеркаваньні плянаў далейшага ўзаемнага супрацоўніцтва.

## Яны зробяць усё, каб не дапусьціць Беларусь у Эўропу

...Хочацца бачыць Беларусь эўрапейскай краінай, як Чэхія, Польшча, Летува.

Аднак у нас ёсьць сілы, якія зробяць усё каб не пусьціць беларусаў у Эўропу. Адной з іх зьяўляецца "Саюз афіцэраў", карані якога цягнуцца ў Маскву. Яго мэта відавочная: у выпадку зыходу Лукашэнкі, ён, на маю думку, пачне барацьбу з кожнай сілай у Менску, якая захоча адарваць Беларусь ад Расеі і далучыць да Эўропы. Расея дапамагала кансэрватына-савецкім сілам Прыдністроўя, Грузіі, Таджыкістану весьці барацьбу з нацыянал-дэмакратымі гэтых краін. Расея пойдзе гэтым шляхам і ў нас. "Гэтыя сілы" ў Беларусі моцныя, добра арганізаваныя. Яны настрашаны падзеямі ў Прыбалтыцы. Пасьля таго, як урады гэтых краін пачалі дбаць пра свае народы, ім — бальшавіцкім сілам — прышлося паступіцца. Гэтага яны баяцца і на Беларусі. Падсумаваньне простае, прэзыдэнцтва Лукашэнкі не вечнае, таму трэба рыхтавацца да ратунку сваіх прывілеяў.

Яны маюць нядрэнныя сувязі з чырвона-карычневымі рухамі ў Расеі. Таму беларускім нацыянал-дэмакратам трэба не паддавацца эйфорыі, а сур'ёзна працаваць з людзьмі, асабліва ў працоўным асяродзьдзі.

Мы ведаем, што на сьпінах адурманеных беларусаў на Бацькаўшчыне сядзіць многа розных "рускіх афіцэрскіх саюзаў" і антыбеларускіх арганізацыяў з нахальным і хамскім характарам...

**БЕЛАРУСКІЯ ПАТРЫЁТЫ!
Дзе-б вы ні былі, заўсёды і адважна змагайцеся за беларускую БЕЛАРУСЬ!**

# Unbelievable - неверагодна!..

«ПАГОНЯ»

**За апошнія гады ацэнка беларусаў у свеце значна пагоршылася. Большасць краін не ведала пра Беларусь, таму цяпер у іх складваецца ўражанне пра нашу краіну і пра нас на падставе звестак, атрыманых падчас кіравання С.Шушкевіча і А.Лукашэнкі. Яны думаюць, што мы неразумныя лайдакі і жабракі, гатовыя прадаць сваю зямлю, сваю культуру і мову за кавалак каўбасы, а сваю душу - за абяцанкі ўсталявання Эдэму на гэтым свеце ў асобна ўзятым саюзе ўсіх славянаў альбо хаця б двух славянскіх «братоў».**

Некаторыя асабліва жаласныя спрабуюць нам растлумачыць, што шчасце само не прыйдзе, што трэба доўга і ўпарта працаваць. Нядаўна адзін фламандзец таксама даводзіў аўтару гэтых радкоў знакамітую тэорыю «step by step» - паляпшаць жыццё крок за крокам. Пакуль не ўбачыў, як паўсюдна вакол горада сяляне і дачнікі араюць зямлю канём. Гэта яго так уразіла, што ён перагледзеў свае місіянерскія погляды ў адно імгненне і больш не карыстаўся ментарскімі інтанацыямі. Ён яшчэ не бачыў, як прафесар разносіць гной, як з металалому складваюць міні-трактар, альбо араюць пры дапмозе лябёдкі і троса ці запрагаюць у плуг двух бабаў. Аўтар мог бы яму ў верасні паказаць «дарогу жыцця» - маршруты Фолюш - дачы, па якому рухаюцца з каляскамі і возікамі бабулькі: выцягваючы жылы, яны вязуць ураджай гародніны на свае гарадскія кватэры. Мог бы пазнаёміць з прадпрымальнымі людзьмі, якія так і не здолелі пераадолець бюракратычныя забароны і пачалі працаваць нелегальна, альбо развіталіся з марамі пра новую вытворчасць ці камерцыю. Са збіральнікамі грыбоў і ягад у памежнай зоне, якіх міліцыя вылоўлівае і штрафуе адразу пасля здачы імі сабранага на прыёмны пункт. Ужо не адкруціцца, што няма грошай. З навукоўцамі, якія гадамі прабіваюць працейшыя вынаходніцтвы і тэхналогіі, альбо не могуць надрукаваць сваю працу па ідэалагічных прычынах (каб яны ведалі, колькі ў нас сёння развялося цэнзараў, афіцыйных і заканспіраваных!).

Ведаю, што сказаў бы мне замежны госць: «unbelievable», гэта значыць - немагчыма паверыць. Як паверыць у тое, што, паколькі другога траўня фірмовы магазін працуе да двух гадзін апоўдні, калгас «Абухава» прадукцыю туды не завозіў? Unbelievable... Чаму ў рэстаране ўсе абрусы прапаленыя, як рэшата? Unbelievable...Чаму ва ўмовах міжнароднага і грамадзянскага міру нашыя дарогі выглядаюць як пасля бомбакідання? Чаму беларус вымушаны звяртацца ў суд, каб запяспечыць сваім дзецям нацыянальную адукацыю - і суд яму ў гэтым адмаўляе? Чаму вада ў Нёмане такая брудная? Чаму такія прымітыўныя архітэктура і якасць будаўніцтва? Чаму адны гарадзенцы будуюць катэджы ў «царскіх сёлах», а іншыя туляцца па інтэрнатах, якія нагадваюць трушчобы?

Я наўмысна не хацеў кранацца палітычных праблемаў і на ўсе датычныя палітыкі пытанні проста паказваў жэстам далоні стан рэчаў у гэтай галіне. Сама сітуацыя не патрабавала большага тлумачэння - замежны госць быў не палітолагам, а звычайным бізнесоўцам. Гэты бізнесовец ведае тры мовы (англійскую, нямецкую, іспанскую), шмат гадоў мае агульную справу з краінай найвялікшых цудаў - Расіяй, але наша рэчаіснасць часам ставіла ў тупік і яго.

З усяго гэтага вынікае такое сцвярджэнне - усё ў нас ёсць для нармальнага жыцця, вось толькі не ўмеем мы прызначыць, абраць, запрасіць разумнае кіраўніцтва і не дапусціць, каб яно ўселася на наш карак. Калі ж шукаць прычыны гэтай няздольнасці, то непазбежна прыйдзеш да высновы - беларусы не ўсведамляюць патрэбы ў стварэнні ўласнай улады, уласнай дзяржавы, уласных міністраў, чынавенства і мэнэджэраў. Пазбаўленыя гістарычна разнастайнымі вуніямі і інкарпарацыямі сваёй дзяржавы, беларусы проста развучыліся ўплываць на свой лёс праз дзяржаўны механізм. Эканамічны дабрабыт, бяспека ўласнасці і асобы, палітычная свабода, законнасць і парадак у нас не звязваецца з існаваннем беларускай дзяржавы. Як не банальна гэта ў чарговы раз сцвярджаць, але адсутнасць свабоды ва ўласнай дзяржаве, нацыянальны нігілізм і палітычна-грамадская абыякавасць не даюць нашым грамадзянам стварыць дзяржаву, якая будзе дбаць толькі і выключна пра наш інтарэс.

Без такой, сваёй, роднай дзяржавы ўсе нашыя высілкі на заводах, палетках, дачах, у лабараторыях і аўдыторыях будуць сцякаць у пясок. Змяніцца самім, змяніць свой імідж беларусы ў стане толькі адным чынам - стварыць уласную дзяржаву.

**Сяргей Самасей**

## ЕС дапаможа палепшыць ахову мяжы Літвы з Беларуссю, абяцае кіраўнік дэлегацыі Еўракамісіі

Кіраўнік дэлегацыі Еўракамісіі ў Літве Генрык Шмігялёў паабяцаў паспрыяць Літве ў аказанні дапамогі з боку ЕС у фінансаванні праектаў аховы ўсходняй мяжы гэтай краіны.

У Брусэлі пераважае меркаванне, што ўсходняя мяжа Літвы ў будучым стане знешняй мяжой Еўрасаюза, таму неабходна паляпшаць яе ахову, сказаў дыпламат журналістам. Разам з іншымі пасламі заходніх краін Шмігялёў на мінулым тыдні агледзеў літоўска-беларускую мяжу. На заставе ў Мядзінінкай дыпламаты пабывалі на вежы назірання за мяжой, якая мае вышыню 30 метраў і дазваляе назіраць за плошчай у 20 квадратных кіламетраў. У Літвы ўжо шэсць такіх вежаў на мяжы з Беларуссю, плануецца пабудаваць яшчэ 14. Замежныя дыпламаты таксама азнаёміліся з ходам дэмаркацыйных работ. Агульная працягласць мяжы паміж дзвюма краінамі складае 650 кіламетраў, і кожны з бакоў павінен дэмаркіраваць па 325 кіламетраў. Літвой ужо праведзена адпаведная праца па абуладкаванні 230 кіламетраў мяжы. Беларусь пакуль устанаўлівае часовыя слупы, а ўстаноўку пастаянных збіраецца пачаць хутка на чатырох важнейшых участках мяжы па 30 кіламетраў.

Па словах Шмігялёва, каб добра забяспечыць ахову літоўскіх межаў, патрэбны буйныя інвестыцыі. У гэтым годзе пачне дзейнічаць праграма ўпраўлення мяжой PHARE, у рамках якой Літве, Латвіі і Эстоніі было выдзелена амаль па 2 мільёны ЭКЮ. Літоўская мяжа таксама павінна атрымаць падтрымку з бюджэту PHARE, які зараз фарміруецца.

**BNS-БелаПАН.**

## BELARUS A LABORATORY FOR TOTALITARIANISM, Opposition Leaders Say

(Washington, DC — June 23, 1998) Two leading opposition figures from Belarus said that under President A. Lukashenka their country has become a laboratory to experiment with the restoration of totalitarianism. Lukashenka also poses a threat to neighboring states, they said, because he courts the support of fascist forces in Russia through his advocacy of Slavic chauvinism.

Speaking at RFE/RL's Washington office on June 18, Professor Stanislav Bogdankevich, a former Chairman of the Belarus Central Bank, explained that, "There is no place for civil society in Belarus under Lukashenka." The private sector is increasingly squeezed out of existence by state institutions and government-controlled structures. The economy is close to collapse despite the release of government statistics which claim that there was a 10 percent increase in GDP in 1997 and a further 12 percent increase during the first five months of 1998. Bogdankevich said that the following indicators give a much better picture of the state of the Belarusian economy:

* The private sector accounts for only 9 percent of gross domestic product. In 1997 when private businesses were required to reregister, 54 percent of them were closed down by the government.
* Lack of growth in real income. The average monthly wage in Belarus is $75; in Russia $160; in Lithuania $260; and $350 in Poland.
* National savings are only 1.8% of GDP. And levels of investment are negligible.
* Prices are higher than in neighboring states on all food except for bread, vodka and champagne. The price of meat is 100% higher than in Poland.
* Belarus owes Gazprom, the Russian natural gas supplier, a staggering $240 million for natural gas deliveries after paying what it could through barter arrangements.
* Belarus spends $2 billion per year more to produce goods than it receives for their sale.
* International Monetary Fund offices were recently closed because of the Belarusian government lack of cooperation. The World Bank office there is also to close in the near future.

Professor Yury Khadyka, Deputy Chairman of the Belarusian Popular Front, said that the major obstacle for the democratic opposition in Belarus is its lack of access to the press and media in Belarus. The latest independent public opinion polls in Belarus show that only 20 percent of the population support Lukashenka, 26 percent support the democratic opposition and 53 percent are undecided. Khadyka maintains that by denying the people of Belarus information, Lukashenka has made them "spiritual invalids" who cannot see that there is an alternative to Lukashenka. The democratic opposition is beginning to build alternative sources of news and information both in the cities and countryside to counter government propaganda. Until they are strengthened, the few reliable sources are international broadcasters such as RFE/RL. But Khadyka says that in a free election, Lukashenka would be defeated.

Speculating about the likelihood of reunification between Russia and Belarus, Khadyka said that if president Boris Yeltsin runs for a third term in the year 2000, he will be tempted to reincorporate Belarus. This would allow Lukashenka to also run for President of a greater Russia. His entry into the race would diminish the chances for A. Lebed to defeat Yeltsin, since both politicians appear to draw their support from the same voter base.

Radio Free Europe/Radio Liberty is a private, international radio service to Eastern and Southeastern Europe, Russia, the Caucasus and Central Asia, funded by the US Congress. More than 20 million regular listeners rely on RFE/RL's daily news, analysis and current affairs programming to provide a coherent, objective account of events in their region and the world.

******************

## Lukashenka Documentary Film Screened on Capital Hill

The award-winning film "An Ordinary President" by director Yury Khashchevatsky was well received by an audience June 18 in the hearing room of the United States Senate Foreign Relations Committee. The Senate committee and Radio Free Europe/ Radio Liberty hosted the event for congressional staff and human rights groups.

The film is a political satire on the rule of President Alyaksander Lukashenka in Belarus. The audience of 60 enjoyed the satire, as evidence by the frequent laughter that filled the committee room. At the same time the seriousness of the subject matter was not lost on the audience. After the film, there were numerous questions for the director who also attended the showing.

RFE/RL President Thomas Dine introduced the film and told the audience about his conversation with President Lukashenka a few years ago. Dine said that Lukashenka made it clear that he wanted to be President of both Belarus and Russia; was totally opposed to economic reforms; and was intolerant of a diversity of opinion, preferring to rule "an obedient state".

In answer to questions, Khashchevatsky said that although his film has never been shown in a movie theatre in Belarus nor broadcast on Belarusian television, many people have viewed the film. There are estimates that 150,000 copies in video cassette format are circulating throughout Belarus, some of them 10th generation tapes. The director said that many people volunteered in the production, providing both archival film footage and new material. This broad based cooperation in itself shows the widespread opposition to Lukashenka.

As portrayed in the film, Lukashenka, his chief of staff and the Russian-based National Sports Fund have benefitted by the "privatization of the Belarus-Russian border". More generally, it is Russian economic interests which benefit from the currant petty dictatorship of Lukashenka. There are estimates that $3 billion worth of illegal traffic in goods and services are being run mainly by the Russian energy companies. Khashchevatsky said that as economic conditions in Belarus near collapse, Lukashenka will be forced to sell off major state-run industries, but that only Russian capital would be available for this privatization effort, since Western firms would not be so foolhardy as to risk investing in Lukashenka's Belarus.

Asked if there was a tendency in all post-Soviet societies to revert to authoritarian or dictatorial rule, Khashchevatsky said that every leader has two sides and societal forces can either push him to great accomplishments or tragic consequences. A serious weakness of post-Soviet societies is that the field of information available to the average citizen is cluttered with inaccuracies and even falsehoods. He reminded the media that the development of society will depend in great part on how it presents information to its viewers and listeners.

Two leaders of the Belarusian democratic opposition, former Chairman of the Belarus Central Bank Professor Stanislav Bogdankevich and Deputy Chairman of the Belarusian Popular Front Professor Yury Khadyka were also in attendance and were able to answer a few questions about conditions in Belarus.



## П'ЯНАЯ ВЁСКА

«Алеся»

Ніхто і не заўважыў, як памерла Іваніха. П'яная кампанія шумела і гудзела, калі ў хату надвячоркам прыбеглі дзве маленькія дзяўчынкі і, плачучы, пачалі клікаць бабулю дамоў. Старая была ўдзельніцай усіх вясковых падзей — вяселлі, пахаванні, дні нараджэння ніколі не абыходзіліся без Іванiхі. Чатыры яе дачкі выйшлі замуж і з'ехалі ў горад. Пятая жыла з маці ў вялізнай хаце, якую некалі пабудаваў Іван для свае сям'і. Даўно памёр ужо гаспадар, а дыхтоўная і прыгожая хаціна ад часу пацямнела і неяк скасабочылася. Яе б адрамантаваць ды пафарбаваць. Толькі каму гэтым займацца? Старэйшыя дочкі з зяцямі рэдка прыязджаюць да маці, малодшая, як і маці, — п'яніца. Аднойчы, калі ў кішэні было пуста, а выпіць вельмі хацелася, яна ўкрала на вакзале сумку і трапіла ў турму. Яе дзвюх маленькіх дачок, якіх нарадзіла без мужа, гадавала бабуля. Хаця якое там гадавала? У хаце часта нават скарынкі хлеба не было. Іваніха, здаралася, магла сысці на дзень і два, і тады малыя бегалі па вёсцы і шукалі яе, а знайшоўшы, цягнулі дадому. Маленькія светлагаловыя дзяўчынкі, я ніколі не бачыла, каб яны смяяліся...

Мая вёска Загор'е — самая звычайная, не лепшая і не горшая за іншыя. Ёсць магазін, пачатковая школа, нават клуб. У двух кроках хады ад яе — вялікі малочнатаварны комплекс. Некалі шматлюдная, яна патроху старэе: у мінулым годзе зачынілі школу, бо не было дзяцей, а клуб, у якім раней віравала жыццё, загадчыца адчыняе толькі раз на тыдзень, калі праводзіць дыскатэку. Старэюць і паміраюць жыхары нашай вёскі. Іх дзеці, якія даўно перабраліся ў гарады, прыстасоўваюць бацькоўскія хаты пад дачы або наогул прадаюць чужым людзям. І тады сярод драўляных паступова пачынае вырастаць цагляная будыніна — дачнікі будуюць з размахам, зямлі ж хапае. Вось так і суседнічаюць — палова сваіх, вясковых, палова — прыезджых, якія ўспрымаюць нашу вёску як своеасаблівы дачны пасёлак, дзе ўсё павінна быць падпарадкавана іх інтарэсам і дзе вясковае жыццё і шматгадовыя традыцыі бачацца ім як нейкая экзотыка.

— Прывітанне! — да мяне ў двор заглядвае немаладая ўжо суседка. Шчокі ў яе падазрона чырвоныя, вочы блішчаць. Гэта — Зінка, як клічуць яе па-вясковаму, хаця той пад пяцьдзесят. Яна нападпітку, накіроўваецца на ферму, дзе працуе даяркай, а яе муж, Мікалай, даглядчыкам. Некалі Зінка нават была адной з лепшых даярак у раёне, працаваць умела і любіла. Але апошнія гады больш бачу яе і Мікалая паўп'янымі, з іх хаты часта даносяцца песні, а то і лаянка — у залежнасці ад ступені ап'янення. І муж, і жонка гуляць любяць з размахам. Пасля палучкі спіртное ў хаце не пераводзіцца, сабутэльнікі таксама.

У Зінкі — характар няпросты, да двух з ёю не гавары, асабліва калі з перапою, і маладзенькая загадчыца фермы добра гэта ведае.

— Зінаіда Мацвееўна, — звяртаецца яна да яе пачціва, — учора я вашу групу кароў сама падаіла, заўтра раніцай абавязкова прыходзьце на ферму...

— Добра, прыйду, — згаджаецца Зінка. — І што б вы без мяне рабілі?



Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

І сапраўды, што? Ведаю, загадчыца фермы, калі б яе воля, даўно б выгнала п'янчужку з работы. А далей? Хто пойдзе працаваць на ферму? Кім яе заменіш? Тым больш, што не адна такая. Некалькі даярак, як і Зінка, любяць «пагуляць». І тады загадчыца сама доіць іх групу кароў або бяжыць на паклон да зусім ужо нямоглых пенсіянерак, якія ў свой час былі даяркамі і проста не разумеюць, як гэта можна наогул не прыйсці на дойку...

— Ну, даруй, учора пагулялі, крыху выпілі, — апраўдваецца Зінка, калі раніцой сустракаемся з ёю ля калодзежа. — Душа гарыць, патрабуе...

Ды Бог з ёй! Не малая, сама няхай вырашае, як жыць. Толькі вось яе дзеці — на іх проста балюча глядзець. У Зінкі з Мікалаем іх пяцёра. Самая старэйшая, Валя, выйшла замуж і жыве ў суседняй вёсцы. Астатнія... Наташа нарадзілася з паркам сэрца. Каця яшчэ маленькай з-за недагляду п'янай маці зваліўся з печы і назаўсёды засталася калекай. Адзіны сын Валодзька ў агульнаадукацыйнай школе адолеў толькі два класы. І апошняя Волька, дзіця п'янага кахання, нарадзілася са значнымі адхіленнямі ў псіхіцы. Ды хіба Зінка са сваім Мікалаем адзі-

(Працяг на стар. 12)

*Як вядома, напрыканцы красавіка адбыўся чарговы з'езд пісьменнікаў Беларусі. На жаль, друк, радыё і тэлебачанне недастаткова ўдзялілі ўвагі гэтай важнай падзеі ў культурным жыцці краіны. Пакольки на форуме майстроў слова прагучалі сур'ёзныя выступленні, якія датычылі не толькі праблем літаратуры, але закранулі балючыя грамадска-палітычныя пытанні часу, то "Народная воля" вырашыла азнаёміць сваіх чытачоў з некаторымі старонкамі стэнаграмы з'езда. Сёння змяшчаем прамову народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча. У бліжэйшых нумарах пастараемся даць слова і іншым дэлегатам з'езда.*

"Народная Воля"

## Ніл ГІЛЕВІЧ

# І з нейкай садысцкай азвярэласцю



Шаноўная грамада!

У траўні 1966 года мне ўпершыню далі слова на з'ездзе пісьменнікаў Беларусі. Старэйшыя з прысутных напэўна помняць: слова маё было крыкам душы ў абарону нашай роднай мовы, якую небывалым тэмпам выганялі тады са школ і наогул з грамадскага ўжытку ў Беларусі. З той пары прайшло ўжо 32 гады. Тады быў з'езд пяты, цяпер — аж дванаццаты. І што ж? І зноў я мушу гаварыць аб тым жа, што і 32 гады назад, — аб лёсе нашай роднай мовы, якую яшчэ большымі тэмпамі і з нейкай садысцкай азвярэласцю выганяюць з Беларусі. Мушу аб гэтым гаварыць, бо тое, што чыніцца ў Беларусі з мовай 10-мільённага славянскага народа, ёсць вялікае злачынства перад культурай усяго чалавецтва і ёсць здзек над усімі разумнымі асновамі міжнацыянальных узаемаадносін.

Я мушу аб гэтым гаварыць, таму што, на маё глыбокае пераканнне, іменна мова вызначае шлях натуральнага духоўнага развіцця нацыі. Гэта яна за доўгія стагоддзі, а можа, і за тысячагоддзі насельнікаў зямлі, што распрасцёрлася ад Буга да Сожа і ад Заходняй Дзвіны да Прыпяці, зрабіла беларускім народам. Гэта яна вывела нас у свет і абазначыла ў гэтым свеце наша законнае, Богам дадзенае месца. Гэта яна, стаўшы адзінай унармаванай мовай пісьменства, абавязала і абавязвае мільёны грамадзян Беларусі пачувацца суграмадзянамі, суайчыннікамі, супольнікамі аднаго гістарычнага лёсу. Гэта яна патрабуе ад усіх нас думаць і помніць, помніць і думаць. Думаць аб тым, што без яе мы — ніхто і нішто. Помніць аб тым, што культурны ўзровень нацыі вымяраецца перш за ўсё па ёй, па ступені вернасці ёй, па ўзроўні валодання і маштабах карыстання ёю. Па тым, наколькі яна сапраўды ёсць наша святыня. На "трасянцы", на мове Камароўскага рынку інтэлектуальная асоба вырасці не можа. Не можа вырасці ні мысляр-палітык, ні мысляр-дзяржаўнік, ні мысляр-творца.

З трыбуны з'езда хацелася б, вядома, гаварыць аб нашай сучаснай літаратуры, аб новых набытках таварышаў і сяброў па працы. На вялікі жаль, дазволіць сабе гэтую "раскошу" я не магу: не выпадае. Што з таго, што паэты і пісьменнікі напісалі і апублікавалі ў апошні час добрыя і нават выдатныя творы? А ці ідуць гэтыя творы ў народ, ці маюць яны чытача? Каб таленавітыя беларускія кнігі жылі нармальным жыццём — у дзяржаве павінна ажыццяўляцца таленавітая, гэта значыць разумная і мудрая нацыянальная палітыка. Каб гэтыя таленавітыя кнігі чыталі — у грамадстве павінна быць адпаведная духоўная атмасфера і павінны быць чытачы, у якіх пры гуках Роднага Слова радасна б'ецца сэрца. На жаль, колькасць такіх чытачоў адчувальна змяншаецца і будзе змяншацца далей, калі палітычна-грамадская сітуацыя і духоўная атмасфера на Беларусі не пераменяцца. У такім выпадку беларускую літаратуру чакае незайздросная прышласць: будзе набіраць сілу працэс, які не дасць ёй магчымасці развінаць крылы, — працэс удушэння беларускага слова. Ён пачаўся з таго, што быў перакрэслены Закон аб мовах, паводле якога беларускай мове быў нададзены ў краіне статус адзінай дзяржаўнай. Гэты Закон быў адзінай рэальнай гарантыяй выратавання нашай мовы. Усё астатняе — гэта, выбачайце, размовы на карысць бедных, гэта прымочкі там, дзе можа дапамагчы толькі аперацыя. Звышнаіўнасць, мякка кажучы, думаць, што ў нашым становішчы дзве дзяржаўныя мовы — гэта справядлівасць. Якая гэта справядлівасць — мы ведаем: не толькі ніводнай беларускай школы, але і ніводнага беларускага першакласніка ў родным горадзе Караткевіча! Вось вам і ўся справядлівасць! Вось рэальныя стан рэчаў, а не дэмагогія узурпатараў.

Склалася сітуацыя, без разумення якой можа аказацца марным само існаванне Саюза пісьменнікаў. Калі Саюз як творча-прафесійная арганізацыя не вызначыць сваю пазіцыю ў сённяшнім грамадска-палітычным раздраі на Беларусі і не скажа аб гэтай сваёй пазіцыі народу — дык якая тады будзе яму як грамадскай сіле цана? На працягу двух стагоддзяў — ад самага пачатку ўзнікнення новай беларускай літаратуры — яе творцы, паэты і пісьменнікі, лічылі сваім найпершым і найсвяцейшым абавязкам змаганне за лепшую долю Бацькаўшчыны, за сацыяльнае і нацыянальнае разняволенне беларускага народа. Падкрэсліваю — і за нацыянальнае. Гэта значыць, за сваю суверэнную, незалежную дзяржаву. Хіба не так? Хіба не гэта ідэя вызначала магістральную лінію яе развіцця, была цэнтральным нервам яе жывога арганізму? Дык што — адвернемся цяпер ад гэтай галоўнай нашай традыцыі? Здрадзім усім тым, хто — ад пачынальнікаў і да нашых дзён — мелі за сцяг, за сэнс жыцця і творчасці ідэю нацыянальнага адраджэння? Здрадзім Багушэвічу, Цётцы, Купалу, Коласу, Багдановічу, Гаруну, Чорнаму, Панчанку, Мележу, Геніюш, Караткевічу? Здрадзім Гарэцкаму, Ластоўскаму, Галубку, Жылку, Зарэцкаму, Калюгу, Мрыю і ўсім іншым многім-многім нашым папярэднікам, якія за вернасць гэтай ідэі прынялі пакутніцкую смерць, пра якіх мы нават не ведаем, дзе ляжаць іх косці?

Сёння глабальны наступ усіх антыбеларускіх сіл на Беларусь як суверэнную дзяржаву, на беларускі народ як самастойны славянскі этнас, на беларускую мову як адну з самых прыгожых, развітых і перспектыўных славянскіх моў — ідзе пад лозунгамі гэтак званага "славянскага брацтва" і саюза Беларусі з Расіяй, канчатковай мэтай якога ёсць утварэнне адзінай рускай дзяржавы. Іншымі словамі — ліквідацыя незалежнай Беларусі і поўнае вынішчэнне мовы беларускага народа. З пэўнага часу на ўсіх імпер-шавініцкіх "набатах" пра гэта гаворыцца адкрыта, без ніякай палітычнай мімікрыі. Маю, здаецца, немалыя падставы для таго, каб не баяцца ярлыка славянафоба і русафоба, бо гэта было б вельмі вясёлае глупства з боку новаяўленых вялікіх патрыётаў славянства. Дазвольце нагадаць, што амаль усё сваё свядомае жыццё — больш за сорак пяць гадоў — я працаваў на ўмацаванне дружбы брацкіх славянскіх народаў, падкрэсліваю — славянскіх. Дзеля гэтага пераклаў на беларускую мову творы каля чатырохсот славянскіх паэтаў і пісьменнікаў, напісаў пра іх сотні артыкулаў, прысвяціў нашай дружбе дзесяткі вершаў. Вельмі даражу гэтай дружбай, люблю і паважаю братоў-славян, асабліва за тое, што яны (у гэтым я глыбока перакананы) сваю свабоду і незалежнасць ніколі нікому не ўступяць.

Афіцыйныя СМІ ў Беларусі надрываюцца ад крыку пра саюз славянскіх народаў. Агітуюць, заклікаюць, пераконваюць, што толькі ён уратуе славян ад пагібелі. Марныя намаганні. Ніякі вялікі саюз славянскіх народаў не ўтворыцца. Яго не будзе датуль, пакуль праімперскія шавіністычныя сілы будуць асіміляваць беларусаў і вынішчаць беларускую мову. Сапраўднае брацтва славян пачнецца тады, калі на беларускім небасхіле знікне цень двухгаловага арла, а ў самой Беларусі скрозь і ўсюды запануе беларуская мова — як, скажам, балгарская ў Балгарыі або сербская ў Сербіі. Без гэтага ўсе размовы пра наша братэрства — пустачынне крывадушша, не больш. Славянскі свет гэта бачыць і разумее. І, канешне ж, не верыць у шчырасць "заклікалаў". Як могуць паверыць ім украінцы, балгары, сербы, македонцы і іншыя браты-славяне, калі ў іх на вачах ажыццяўляецца гвалтоўная асіміляцыя беларускага народа, вытраўляецца яго духоўная самабытнасць, забіваецца яго старажытная мова?

У краіне відочна пагаршаецца крымінагенная сітуацыя, расце колькасць забойстваў, рабункаў, гвалтаў, беспакарана дзейнічаюць мафіёзныя і карумпіраваныя структуры. Важкай перашкодай на гэтым ганебным шляху крыміналізацыі грамадства магла б быць ідэя беларускага нацыянальнага адраджэння — ідэя, якая змагла б мабілізаваць у народзе ўнутраныя рэсурсы духоўнасці, якая паклікала б да працістаяння маральнаму распаду культуру, літаратуру, мастацтва, падняла б і актывізавала б ролю гэтых фактараў грамадскага прагрэсу. Але

каму пра гэта гаварыць, каму гэта тлумачыць? Тым, што публічна абражаюць творцаў нацыянальнай культуры? Тым, што за беларускую мову на вуліцы б'юць людзей палкамі і цкуюць сабакамі? Тым, што нават уласную хату адабралі ў пісьменнікаў?

Генералы з Масквы вяшчаюць: Беларусь сёння "стала душой воссоединения, возрождения и освобождения нашего славянского мира". Вядомы расійскі пісьменнік піша: "Сейчас пора и время Белой Руси. Выстоит она — спасется славянство". Брава, калега! Такога яшчэ ніхто раней не гаварыў. Аказваецца, ад лёсу Беларусі залежыць лёс не толькі 150-мільённай Расіі, але і ўсяго славянства! Выстаіць Беларусь — не загіне славянства. Як гэта кажуць, дзякуем за гонар. Але дазвольце спытаць: а што застанецца ў выніку ад самой Беларусі? Адкажыце: а як выстаяць самой Беларусі перад небывалым націскам усеахопнай, франтальнай русіфікацыі? Беларусь, кажаце, выратуе славян. А якою цаной? Цаной уласнай пагібелі? Будзе жыць і квітнець саюз славянскіх народаў, але без таго, хто іх уратаваў? Ну і ну!.. Калі ж вы гэтага не жадаеце — то што вы зрабілі і робіце, каб не даць беларускай нацыі загінуць? А нічога. Ані дзлэнг! Ніводзін рускі пісьменнік, ніводзін навуковец, ніводзін артыст, мастак, кампазітар з ліку палымяных патрыётаў славянства не выбухнуў высакародным гневам, не закрычаў "не магу маўчаць!", бачачы, што робіцца ў Беларусі з беларускай мовай, з беларускай школай, з беларускай кнігай, з беларускім друкам! Ніводзін — ні разу! І таму я хачу некалькі слоў сказаць на "великом и могучем", які мы шануем і ведаем не на ўзроўні камароўскай "трасянкі". Господа! Ведь это же чудовищно! Ведь это же значит, что вы поддерживаете этногеноцид по отношению к белорусскому народу. Видеть, какая идет расправа над белорусским языком — и не только безучастно молчать, но еще и подстрекать к этому! Стыдно, господа! Позорно! Как можно принадлежать к издревле благородному сословию интеллигенции (а не мелких лавочников) и не понимать, что сознательно и воинственно способствовать умерщвлению языка народа, а значит, и самого народа, могут только, прошу прощения, отъявленные... неинтеллигенты.

Беларускія урадоўцы, афіцыйныя ідэолагі і журналісты зусім у духу 30-х гадоў абрынваюць цэлыя каскады абвінавачванняў і праклёнаў на ўсё яшчэ недабітых, недавыкарчаваных, неверагодна жывучых "беларускіх нацыяналістаў". Нашто вам увесь гэты клопат, панове? Зрабіце адну нескладаную рэч — і не стане ніякіх "нацыяналістаў". Зрабіце тое, што ёсць ва ўсіх славянскіх народаў, з якімі вы так горача жадаеце аб'яднацца ў саюз. А іменна: зрабіце, каб у Беларусі паўсюдна запанавала беларуская мова — толькі і ўсяго. Каб на беларускую мову перайшло — на ўсіх узроўнях — справаводства, адукацыя (у тым ліку і абавязкова — вышэйшая школа), навука, армія і г.д. — як гэта было ў нас у першае дзесяцігоддзе пасля Кастрычніка. Зрабіце — і вы ўбачыце, як падымецца ў нашым народзе дух славянскага брацтва. Але справа ў тым, што вы гэтага не зробіце, бо вам не дазволяць гэта зрабіць, бо гэта будзе рашуча пярэчыць геапалітычнай стратэгіі Крамля, бо вас тут жа змятуць і выкінуць на сметнік тыя, хто вас прывёў да ўлады. І вы гэта выдатна разумееце.

Шаноўныя дэлегаты!

На працягу цэлых стагоддзяў нас, беларусаў, раз'ядноўвалі тэрытарыяльна, палітычна, канфесійна, сацыяльна — і ўсё з такім цынізмам, каб выглядала, што мы самі гэтага хочам, што мы сваімі рукамі садзейнічаем гэтаму раз'яднанню. Сёння гэта нялюдская палітыка "разделяй и властвуй" працягваецца ў асабліва цынічных, брутальных формах. Грамадства расколваецца далей і далей. Вядома ж, гэта не магло не закрануць і мастацкую інтэлігенцыю, не магло не адбіцца на жыццядзейнасці творчых суполак. На літаратурнай ніве Беларусі сёння працуюць людзі і розных узроўняў таленту, і розных эстэтычна-творчых арыентацый, і розных ідэйных перакананняў, і розных чыста чалавечых якасцяў, адкуль вынікаюць і розныя ўзаемаадносіны: сімпатыі і антыпатыі, сяброўства і непрыязнасць. Пройдуць дзесяцігоддзі — і час паглядзіць на многія з гэтых разыходжанняў і варагаванняў з паблажліва-горкай усмешкай. Але ён, той час, што будзе належыць не нам, а нашым нашчадкам, ніколі не даруе тым, хто ў лёсавызначальныя для Беларусі дні ішоў не тым шляхам, якім павінен быў ісці, хто жыў і паводзіўся так, як быццам на свеце не жылі ні Багушэвіч, ні Купала, ні Багдановіч... Кожнаму дадзена воля зрабіць свой выбар. Але Маці-Радзіма заўсёды спадзяецца, што яе дзеці зробяць выбар у яе карысць, — такі выбар, каб яе душы і сэрцу не было балюча.

## СТАРШЫНЯ ДУМСКАГА КАМІТЭТА ПА СПРАВАХ НАЦЫЯНАЛЬНАСЦЯЎ УЛАДЗІМІР ЗОРЫН ЛІЧЫЦЬ, ШТО Ў МАСКВЕ НЯМА НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ПРАБЛЕМЫ

Паводле даных апошняга перапісу насельніцтва (1989 год), у Маскве пражывала 8 млн. 875 тысяч чалавек. З іх рускіх — 7 млн. 963 тысячы. Далей украінцы — 252 тысячы, яўрэі — 174 тысячы, татары і беларусы — 157 тысяч, армяне — 73 тысячы, мардва — 43 тысячы, азербайджанцы —30 тысяч, грузіны — 20 тысяч, чувашы — 19 тысяч, казахі — 9 тысяч, асеціны — 8 тысяч, малдаване — 7 тысяч, палякі — 6 тысяч, башкіры — 6 тысяч, немцы — 5 тысяч. Акрамя таго, у Маскве пражываюць (у межах 1000—1500 чалавек) грэкі, лезгіны, таты, абхазы, арабы, карэлы, іспанцы. Усяго — прадстаўнікі 150 нацыянальнасцяў.

**— Уладзімір Юр'евіч, гэтыя лічбы істотна змяніліся?**

— Вядома. Прычым, абсалютнымі чэмпіёнамі па прыросту насельніцтва сталі выхадцы з Каўказа. Іх, разам узятых (маецца на ўвазе армяне, азербайджанцы, грузіны, асеціны і інш.), стала больш на 50 тысяч. Татарамі насельніцтва Масквы папоўнілася на 26 тысяч. Не выпадкова татарскае свята Сабантуй з 1996 года маскоўскімі ўладамі залічана да агульнагарадскіх свят.

**— А колькі рускіх прыбыло ў сталіцу?**

— Больш як 800 тысяч. Прырост атрымаўся ў асноўным за кошт прыехаўшых з былых рэспублік СССР, бежанцаў і перасяленцаў з «гарачых» кропак.

**— А якая рэлігійная карціна?**

— На 1 студзеня 1996 года ў Маскве былі зарэгістраваны 753 рэлігійныя арганізацыі. З іх 319 знаходзяцца пад юрысдыкцыяй Маскоўскага патрыярхата, а 434 належаць да іншых канфесій. Цікава, што ў пачатку стагоддзя ў Маскве 93,75 працэнта масквічоў спавядалі праваслаўе. А іслам — усяго 0,4 працэнта. Лютаранскую рэлігію — 2 працэнты, іудзейскую — 0,8 працэнта. А цяпер у Маскве толькі адных мусульман каля 1 мільёна.



# УСЕВАЛАД РОДЗЬКА

*"Наша Ніва"*

Калі аналізуеш дзейнасьць беларускіх нацыяналістаў падчас Другой сусьветнай вайны, нярэдка ловіш сябе на думцы: Як? Калі яны пасьпелі арганізавацца? Адкуль браліся сілы і людзі?!.. Украінскі нацыянальны рух Супраціву стварыўся на аснове арганізацыяў і фармацыяў, якія дзеялі ўсе міжваенныя гады. Беларускі нацыянальны Супраціў, як і нацыяналістычны рух арганізаваўся фактычна ўжо падчас нямецкай акупацыі.

Гісторык Анатоль Бадулін у сваім тэндэнцыйным артыкуле «Националист — это человек, сделавший уверенный шаг к фашизму» (Советская Белоруссия, № 115, 20 чэрвеня 1996 г.) сьцьвярджаў, што:

«узьнікненьне ідэалёгіі беларускага нацыяналізму адносіцца да 1940 году, калі на тэрыторыі Польшчы (акупаванай немцамі) ў колах беларускіх нацыяналістаў... узьнікла думка пра стварэньне нелегальнай арганізацыі... — «АБН»(Арганізацыя беларускіх нацыяналістаў, паводле Ю. Туронка — Партыя беларускіх нацыяналістаў - **С. Ё.**)». Сапраўды, менавіта ў акупаванай гітлераўцамі Варшаве ў 1940-41 гадах стварыўся кіруючы цэнтар Беларускага нацыянальнага Супраціву. Адным зь яго лідэраў стаў 20-гадовы Ўсевалад Родзька.

Ус. Родзька нарадзіўся ў 1920 годзе ў вёсцы Чучэвічы Лунінецкага павету ў сям'і Філарэта і Веры Родзькаў. Яго бацька — настаўнік, які паходзіў зь вёскі Вераскава на Наваградчыне, у Першую сусьветную вайну быў мабілізаваны ў расейскую армію, стаў афіцэрам. З 1918 году Філарэт Родзька настаўнічаў на Мазыршчыне, дзе й ажаніўся з таксама настаўніцай Верай Гулевіч. У 1920 годзе, магчыма, з войскамі генэрала Булак-Балаховіча, яны ўцякаюць ад бальшавікоў на Наваградчыну, у Вераскава. Відаць, па дарозе дахаты, на Лунінеччыне, і нарадзіўся ў сям'і Родзькаў хлопчык, якому бацькі далі імя Ўсевалад. У 1934 годзе ў Наваградку польскімі ўладамі была зачыненая беларуская гімназія. Яе навучэнцаў залічылі ў мясцовую польскую гімназію імя А. Міцкевіча. Сярод беларусаў, якія туды трапілі, былі й будучыя вядомыя дзеячы беларускай эміграцыі: Барыс Рагуля, Язэп Сажыч і Ўладзімер Набагез. Успамінае Б. Рагуля: «Нас, беларусаў, у гімназіі было пяцёх. У пятай клясе ўжо вучыўся Родзька, які быў запісаны расейцам. Але не яго гэта была віна, а бацькоў... У шостай клясе беларусамі сябе лічыла ўжо восем чалавек, у тым ліку і Ўсевалад Родзька. А гімназію скончыла 13 беларусаў... Родзька належаў да харцэрства г.зн. скаўтаў. Гэта была вельмі шавіністычная польская арганізацыя... Усевалад быў вельмі здольным і выбіраўся на камандзіра скаўцкай дружыны. Страшэнна здольны ён быў у мовах, гісторыі, а ў матэматыцы крыху слабейшы. У 1935 годзе быў нейкі «дзень калёніі» (Польшча дамагалася калёніяў). Выступае Родзька на сцэне: «Нам трэба калёніі!» Пасьля гэтага мы, Набагез і я, падыходзім да яго: «Каму патрэбны калёніі, табе? Хіба ты ў калёніі не сядзіш?!» Далі яму мы тады перцу так, што ён пайшоў і на беларуса перапісаўся: «Я ваш, я з вамі! — кажа. — Я хачу перайманць мэтоду Макіявэлі (тады мы вельмі захапляліся гэтым Макіявэлі). Я мушу ўбіцца ўверх, каб зьверху зрабіць беларускую справу». Я кажу: «Браток, гэта сьлізкая дарога. Можаш так узьлезьці, што й ня вылезеш пасьля. Мы калёніяў не патрабуем»... Нялёгка прыходзілася беларускім хлопцам бараніць свае нацыянальныя правы ў польскай гімназіі, але яны выстаялі. Пры гэтым ім удалося пазьбегнуць і камуністычнага ўплыву, захаваць свой нацыянальны накірунак. Б. Рагуля ўспамінае, што шмат беларускім гімназістам дапамог сэнатар Васіль Рагуля, які казаў: «Сацыялізм — гэта мост да камунізму. І паколькі ты ня хочаш пераходзіць на той бок рэчкі, дык ня лезь на мост!». Гэтак беларускія хлопцы саматугам захавалі сваю нацыянальную арыентацыю, яшчэ ня ведаючы, якую ролю ім давядзецца адыграць у беларускім руху праз некалькі гадоў... У 1938 годзе, пасьля матуры, Родзька, Рагуля і Янка Гутар зьбіраліся паступаць ва ўнівэрсытэт на мэдыцыну, але ў апошні момант іх мабілізавалі ў польскае войска. Рагуля і Родзька трапілі ў падафіцэрскую школу ў Замброў.

Трапіўшы ўвосень 1939 г. у нямецкі палон, Усевалад Родзька выйшаў на волю вясной 1940 году. Ён наладжвае кантакты зь Беларускім камітэтам у Варшаве, узначальвае яго кракаўскую філію. Менавіта ў гэты час праяўляецца ягоны талент арганізатара, самаахвярнасьць стойкага беларускага патрыёта. Яго заўважылі. Айцец Гадлеўскі паверыў маладому хлопцу й прыцягнуў Усевалада да падпольнай працы. Цяпер Родзька зь юнацкага «падпольля» ўваходзіць у сапраўдную канспірацыю. Ужо не было патрэбы «гуляць» з палякамі, бо пачыналася вялікая «гульня» зь немцамі, стаўкі ў якой былі вельмі вялікія.

Да сёньняшняга дня застаецца ня высьветленым да канца час узьнікненьня Беларускай Незалежніцкай Партыі (БНП). Эміграцыйны гісторык Вацлаў Пануцэвіч лічыў, што яна ўзьнікла ў 1939 г. у Вільні й аформілася ў 1940-41 гг. у Варшаве. У большасьці іншых крыніцаў, у тым ліку і савецкіх, паведамляецца, што БНП арганізавалася ў 1942 годзе ў акупаваным немцамі Менску. Як бы там ні было, а ў 1940-41 гадах у Польшчы а. Гадлеўскі сфармаваў арганізацыйны цэнтар Беларускага нацыянальнага Супраціву. У найноўшай гісторыі хапае прыкладаў, калі сьвятары ачольвалі вызвольныя рухі. Напрыклад, у міжваенны час каталіцкі сьвятар Андрэй Глінка ачоліў славацкую нацыяналістычную партыю, якая выступала за стварэньне незалежнае славацкае дзяржавы (а. В. Гадлеўскі яшчэ ў 1936-39 гг. у Заходняй Беларусі кіраваў нацыяналістычным «Беларускім фронтам»). Падчас Другой сусьветнай вайны пасьлядоўнікі а. Глінкі ўтварылі шэраг патрыятычных ваенізаваных арганізацыяў, як «Глінкаўская моладзь», «Глінкаўская гвардыя» ды інш., якія складалі галоўную сілу вызвольнага руху.

У ліпені 1941 г. Усевалад Родзька, пры падтрымцы абвэру, зь якім супрацоўнічаў (гэта быў тактычны крок а. Гадлеўскага), стаў бурмістрам Віцебска. Ён паступова праводзіць беларусізацыю горада, з 1942 г. арганізоўвае выхад газэты «Беларуская Старонка», у якой часта выступае з публіцыстыкай і фэльетонамі. Аначасова Родзька праводзіць актыўную падпольную працу — выконвае інструкцыі а. В.Гадлеўскага. У жніўні 1941 года пры непасрэдным удзеле Родзькі была падрыхтаваная і праведзеная беларуска-украінская антыбальшавіцкая вайсковая апэрацыя на Палесьсі. І сёньня ўкраінскія гісторыкі пішуць пра гэтую вайсковую акцыю, у якой удзельнічала 10 тысяч жаўнераў Палескай Сечы Ўкраінскай Паўстанчай Арміі і 5 тысяч беларусаў зь Беларускае самаабароны, якая стыхійна ўзьнікла на пачатку вайны на Берасьцейшчыне й Піншчыне. У выніку апэрацыі пад беларуска-ўкраінскі кантроль была ўзятая вялікая тэрыторыя: ад Пінску да Мазыру і ад Слуцку да Сарнаў. Пазьней злачынная нямецкая палітыка змусіла гэтыя аддзелы iсьці ў лес і арганізоўваць нацыянальны партызанскі рух.

Аднак Родзька застаўся працаваць бурмістрам, што давала шмат магчымасьцяў у падпольнай працы. Праўда, ілюзіі наконт нямецкіх «вызваленцаў», якіх і так было ня шмат, хутка зьніклі. Пасьля гібелі Гадлеўскага ў катоўнях гестапа, Усевалад Родзька фактычна становіцца кіраўніком нацыянальнага антынямецкага падпольля ў Беларусі, а перадусім яго найбольш актыўнай часткі. У 22 гады! Бузумоўна, не хапала досьведу, верных сяброў і саюзьнікаў. Але Родзька знаходзіў выйсьце нават у самых безнадзейных сытуацыях. Патрэбна была зброя й ён браў яе ў абвэру, дзеля барацьбы з бальшавікамі. А хто яшчэ даў бы яе беларусам? Заходнія саюзьнікі? Усе спробы наладзіць зь імі кантакты ні да чаго не прывялі...

У студзені 1944 году Ўсевалад Родзька уваходзіць у Беларускую Цэнтральную Раду, дзе адказвае за працу з моладзьдзю. Менавіта моладзь складала асноўную частку сяброў БНП. А калі ў сакавіку 1944-га пачалася мабілізацыя ў Беларускую Краёвую Абарону, Родзька ачольвае 15-ы батальён БКА. Ён, праз свой вайсковы партыйны актыў, быў фактычным кіраўніком БКА, у той час, калі маёр Кушаль камандуючым быў намінальна. Кіраўніцтва БНП у гэты час рыхтуецца да збройнай барацьбы з бальшавікамі: ствараюцца ня толькі легальныя вайсковыя аддзелы, але й партызанскія атрады, пашыраецца падпольная сетка. Сябра ЦК БНП Б. Рагуля ўспамінае: «Быў у Родзькі плян путчу ў Менску падчас II Усебеларускага кангрэсу. Асноўнай сілай мусіў стаць мой батальён, які знаходзіўся пад Докшыцамі. Нам павінны былі падаць цягнік, каб мы пераехалі ў Менск. Там мы бы сталі галоўнай сілай аховы кангрэсу і плянаванага путчу, мэтай якога было аб-

вяшчэньне незалежнае Беларускае Народнае Рэспублікі. Але эшалёну немцы нам не далі, бо, магчыма, нешта пранюхалі...». Плян антынямецкага паўстаньня ў Менску, які распрацаваў Родзька, быў, канешне, фантастычным. Сілаў у БНП было вельмі мала. Значна менш, чымсьці ў польскай Арміі Краёвай падчас варшаўскага паўстаньня. Тым больш, што пачалася апэрацыя «Баграціён» і савецкія танкі ймкліва набліжаліся да Менску. Таму частка сяброў ЦК БНП выступіла супраць самагубчага пляну. Неабходна было захаваць людзей дзеля будучай партызанскай і падпольнай барацьбы.

Летам 1944 году ва Ўсходняй Прусіі, у мястэчку Дальвіц, быў арганізаваны беларускі дэсантны батальён, які павінен быў стаць найбольш баяздольнай адзінкаю антыбальшавіцкага партызанскага руху. Немцы забясьпечвалі беларусаў зброяй, амуніцыяй і самалётамі перакідвалі ў Беларусь. Палітычным кіраўніком быў маёр Родзька, а камандзірам батальёна — маёр Іван Гелда, сябра БНП, які толькі вызваліўся зь беластоцкай турмы гестапа. Родзька верыў у паўстанцаў на Бацькаўшчыне й хацеў ім даць вайсковае й палітычнае кіраўніцтва. Да пачатку 1945 г. было адпраўлена некалькі вялікіх дэсантных групаў, а таксама асобныя дэсантнікі. Усе яны лічыліся жаўнерамі Беларускага Краёвага Войска(БКВ) і сябрамі Беларускай Вайсковай Арганізацыі(БВА). БВА была ўтвораная яшчэ ў 1944 годзе, як адзін з варыянтаў БНП, але толькі ў красавіку 1945-га ў Бэрліне прайшла першая нелегальная канфэрэнцыя вайскоўцаў БВА. Большасьць яе ўдзельнікаў выказаліся за ўдзел у партызанцы на Бацькаўшчыне. Прысутны на канфэрэнцыі праваднік СБМ Міхась Ганько пакаяўся ў сваіх памылках ды заявіў, што далучыцца да дэсантаў, як шэраговы партызан... Нягледзячы на ўсе намаганьні Ўсевалад Родзька ня здолеў перакінуць свой батальён у Беларусь. Вясной 1945-га ў немцаў ужо не было лішніх самалётаў... Але ён не губляе аптымізму. Нават пасьля капітуляцыі Нямеччыны й раззбраеньня батальёна «Дальвіц» у Чэхіі мясцовымі партызанамі, Родзька з групай сваіх хлопцаў пешым маршам прабіваецца на Беларусь. На Беласточчыне яны затрымаліся, тут і адбыўся правал — Родзьку і яшчэ некаторых арыштавалі гэбісты. Выратаваліся нямногія. Напрыклад, Юрка Сянькоўскі ўцёк на Захад. Іншыя працягвалі пешы марш на ўсход і ўліліся ў партызанскую армію генэрала Вітушкі.

Арыштаванага кіраўніка БНП Родзьку (псэўданім «Воўк») прывезьлі ў Менск, у «амэрыканку». Там у яго патрабавалі раскрыць падпольныя структуры, партызанскія базы й групы сувязі. Магчыма, катавалі... У 1995 годзе ў Менску выйшла кніга Аляксея Салаўёва «Белорусская Центральная Рада: создание, деятельность, крах», дзе аўтар выкарыстоўвае ўрыўкі з паказаньняў Родзькі. Толькі ня піша ён, якімі мэтадамі выбіваліся паказаньні ў гэтага маладога хлопца і што зь ім зрабілі чэкісты. У ліпені 1997 году я быў у гасьцях у Лявона Луцкевіча, апошняга з тых, хто праходзіў па «справе шасьці» (Родзька, Гелда, Луцкевічы, Усевалад Кароль, Янка Гінько). Па словах Луцкевіча: «Родзька расказаў на сьледзтве нават тое, што мог не гаварыць». Аднак Лявон Луцкевіч ня верыў, што такая вялікая асоба, як Родзька, мог «проста так здаваць сваіх паплечнікаў. Відаць, спрабаваў арганізаваць нейкую гульню й перайграць Цанаву. Але дзе-ж ты яго перайграеш?!..». Сябра БНП Янка Жамойцін тлумачыць напісаньне Родзькам падрабязных успамінаў у турме тым, што ён хацеў захаваць для гісторыі сьведчаньні пра дзейнасьць Беларускага Супраціву. А што да «гульні», дык ёсьць фактам, што некаторым арыштаваным дэсантнікам БНП чэкісты прапаноўвалі магчымасьць дэсанту ў Грэцыю(!). Ці не на баку камуністычных партызанаў яны там павінны былі ваяваць?! Але гэта толькі словамі й скончылася... Дзесьці ў траўні 1946 году адбыўся суд. Родзька і Гелда былі засуджаныя на сьмерць. Было Усеваладу, як і Кастусю Каліноўскаму, толькі 26 гадоў... Адныя крыніцы паведамляюць, што яго павесілі, другія — што расстралялі. Ходзяць нават чуткі, што яму захавалі жыцьцё і жыў ён у Сібіры. А Юрка Віцьбіч на фотакопіі паказаньняў Родзькі, якую зьмясьціў у «Саўдзельніках у злачынствах» В.Раманоўскі, не пазнаў яго почырку. Загадка?.. «Для мяне Родзька застаўся героем, — гаворыць Б.Рагуля. — Ён і загінуў як герой, як Каліноўскі. І я схіляю галаву перад гэтым чалавекам. Усё ж такі ён заплаціў жыцьцём за ідэю. Ні за грошы, ні за што іншае, а за ідэю...» Была ва Ўс.Родзькі прыёмная дачка. Пасьля вайны жыла з маці ў Парыжы. Эмігранты кажуць, што яна выйшла замуж за гішпанца і цяпер беларускай мовы, напэўна, ня памятае. Магчыма, ня памятае яна і свайго бацьку, беларускага героя, які паклаў сваё жыцьцё на алтар Бацькаўшчыны....

**Сяргей ЁРШ**

*Уладзімір СОДАЛЬ:*

# “Кожны дзень, у любую хвіліну я думаю аб сваёй Беларусі”

«Народная Воля»

“Кожны дзень, у любую хвіліну я думаю аб сваёй Беларусі і адначасова ўспамінаю Вас. Я не раз пытаўся сам у сябе, розным чынам шукаў адказу, але ўсё — бессэнсоўна. Скажыце, чаму ў нашых беларускіх гарадах не пачуеш на кожным кроку гутаркі на роднай мове? Чаму ў беларускіх гарадах не пачуеш беларускай песні? Ды не толькі ў гарадах, а нават у вёсках. Чаму ўся дакументацыя ва ўсіх установах, нават мясцовага значэння, афармляецца толькі на рускай мове? А назавіце мне хоць адзін тэхнікум, вучылішча, інстытут, дзе б выкладанне вялося на роднай мове. Няма такога і не было. Скажыце, дзе ж тое, беларускае, у маёй Беларусі? Дзе тая гордасць нацыі? Чым жа беларус пахваліцца, калі нават не ведае роднай мовы?”

Гэтыя радкі належаць пяру вядомага даследчыка літаратуры, краязнаўцы і пісьменніка Уладзіміра Содаля. Гучаць яны надзвычай надзённа, хоць напісаныя даўно — на пачатку 1957 года, калі Уладзіміру Содалю было толькі дзевятнаццаць і ён яшчэ не ведаў, кім наканавана яму стаць, якімі жыццёвымі сцежкамі прайсці. А працаваў ён у Мурманску на вайсковым заводзе на розных працах: і зямлю капаў, і электрыкам быў, і пры такарным станку стаяў. Юнак адрасаваў свае шматлікія пытанні маладому на той час аспіранту Нілу Гілевічу. Гэты ліст ён даслаў у Мінск з таго паўночнага горада, дзе на адлегласці боль і крыўда за сваю Радзіму адчуваліся яшчэ мацней, чым дома. Ніл Сымонавіч расшукаў у сваім архіве гэты, на пяць старонак уборыстага пісьма, ліст саракагадовай даўнасці і прачытаў яго цалкам на вечарыне, якую наладзілі ў Купалавым доме супрацоўнікі літаратурнага музея ў гонар Уладзіміра Содаля. А называлася згаданая вечарына “Веру самому сабе і Беларусі”. Нагодай для ўрачыстасці стаў юбілейны год і новая кніжка пісьменніка — альбом “Вінцэнт Якуб Дунін-Марцінкевіч”, над якім разам з аўтарам-складальнікам шчыраваў мастак Віктар Сташчанюк. Тут жа, у музеі, быў арганізаваны продаж новага альбома. Гэтая ж імпрэза была і па-сямейнаму цёплая. На ёй прысутнічала маці юбіляра. Шчырасць і высокі грамадзянскі дух панавалі ў невялікай, але ўтульнай музейнай зале Купалава дома. Тут, побач з навукоўцамі, пісьменнікамі і мастакамі, выступалі калегі-тэлевізіёншчыкі, знаёмыя, сваякі, унукі. А побач з прафесійнымі артыстамі — самадзейны фальклорны гурт школьнікаў. Удала дапаўняла вечарыну выстава, аформленая з высокім мастацкім густам. У прыгожых вітрынах-стойках, аздобленых беларускімі ручнікамі былі змешчаны фота розных гадоў, дакументы, запісы, якія расказваюць пра жыццёвы шлях юбіляра, пачынаючы з ягонага радоводу да сённяшняга дня. Тут жа экспанаваліся кнігі, рукапісы, дарожныя занатоўкі, цікавыя рэчы, знойдзеныя Уладзімірам Содалем у ягоных вандроўках.

Да свайго юбілею Уладзімір Содаль прыйшоў з пэўным творчым набыткам. Яго першая кніжачка “Людзьмі звацца” пабачыла свет у бібліятэчцы газеты “Голас Радзімы”. Вельмі трапна ахарактарызаваў яе навуковец і пісьменнік Генадзь Кісялёў: “У ёй, як у зерні, усе наступныя лініі пошукаў Содаля”. Менавіта там сістэматызаваны ягоныя важкія матэрыялы пра Дуніна-Марцінкевіча, Багушэвіча і пра Янку Купалу. Пра Янку Купалу Содаль стварыў яшчэ дзве кнжкі — “Пуцявінамі сейбіта”, “Тут бачу свой край”. У апошняй аўтар адкрывае нам Бараўцы, мясціну пад Мінскам, якая звязана з творчасцю Янкі Купалы. У Бараўцах паэт падрыхтаваў свой першы зборнічак “Жалейка”, там жа пісалася Купалава “Адвечная песня”.

Шмат займаўся даследчык Францішкам Багушэвічам. Вынікі ягоных пошукаў знайшлі ўвасабленне ў такіх кніжках, як “Свіранскія крэскі”, “Кушлянскі кут”, “Жупранская старонка”, “Сцежкамі Мацея Бурачка”. Акрамя гэтага, Уладзімір Содаль у сааўтарстве з Еўдакіяй Мацюш падрыхтаваў альбом, прысвечаны Францішку Багушэвічу, які афарміў мастак Мікола Купава. Кожная кніжачка Содаля, на думку Алеся Карлюкевіча, “як святло, якое прымушае павярнуцца тварам да нашай бясконца багатай літаратуры”. У сваім выступленні на вечарыне Генадзь Кісялёў гаварыў пра Содаля як энтузіяста і руплёўца. У адрозненне ад кабінетных навукоўцаў, якія ў сваёй працы маюць справу з дакументамі, даследчык Уладзімір Содаль любіць працаваць і з людзьмі. А дзеля гэтага ён шмат часу аддае вандроўкам. Гадамі, дзесяцігоддзямі наведвае мясціны, звязаныя з тым ці іншым пісьменнікам, занатоўвае, аналізуе, назапашвае матэрыялы, якія пазней з’явяцца ў друку. Яго ўклад у літаратурнае краязнаўства, пачынальнікам якога быў Сцяпан Александровіч, — бясспрэчны. Імя Уладзіміра Содаля стаіць у шэрагу такіх даследчыкаў літаратуры, як Генадзь Каханоўскі, Кастусь Цвірка, Адам Мальдзіс ды Язэп Янушкевіч.

Уладзімір Содаль вельмі патрабавальны да слова. Варта толькі зазірнуць у любую ягоную кніжачку, каб пераканацца ў гэтым. З якой цеплынёй і шчырасцю яны напісаны! Колькі душы і сэрца ўкладзена ў кожны радок тэксту, дзе так ладна вяжацца слоўка да слоўка. Ён, хто з малаком маці ўвабраў у сябе роднае слова, усё жыццё вывучае яго багацце. Сшытак лексікі яго роднай вёскі Мормаль, сабраны ў студэнцкія гады, — наглядны прыклад ягонай працы па зборы моўных залацінак. Содаль вельмі перажывае, калі бачыць ці чуе, як неахайна часам абыходзяцца з нашым духоўным скарбам. І тут маўчаць ці сядзець, склаўшы рукі, ён не можа. Ягонаму пяру належыць мноства артыкулаў пра мову ў перыядычным друку. Сярод іх як асветніцкія, так і крытычныя, дзе ён на канкрэтных прыкладах паказвае абыякавае стаўленне да роднага слова. Клопат пра лёс роднай мовы натхняў Содаля ў працы над стварэннем цыкла перадач “Гаворым па-беларуску”, тэлевізійнага часопіса “Роднае слова”. Пра гэта згадаў на вечарыне паэт Генадзь Бураўкін, за часам старшынства якога на Дзяржтэлерадыё ўсё гэта рабілася, усё беларускае распачыналася. Тэлечасопіс “Роднае слова”, запачаткаваны Содалем, трымаўся фактычна на ягонай адданасці і сумленні. Пра гэта сведчыць хаця б такі факт. Быў час, калі спадар Содаль вырашыў пакінуць працу на тэлебачанні. І адразу ж, згадвае Генадзь Мікалаевіч, пачаліся праблемы. “Роднае слова” стала беспрытульным, закульгала. Яго кідалі і перакідвалі з рук у рукі. Яно перастала выходзіць рэгулярна. Доўжылася так да тае пары, пакуль яго гаспадар не вярнуўся ў рэдакцыю. Як бачым, гэтая праца аказалася падуладнай толькі Содалю. І ягонае імя назаўсёды будзе звязана з “Родным словам” — карыснай, цікавай і так неабходнай кожнаму з нас тэлеперадачай.

Каму ж абавязаны Уладзімір Содаль у сваім жыцці, у сваіх набытках? Слушны, на наш погляд, адказ на гэтае пытанне прагучаў у выступленні Ніла Гілевіча: “У значнай меры, як і кожны з нас, да нейкага плёну, да пэўных вышыняў ён ішоў самастойна, дабіваўся самастойнай працай, але ўсё-такі як кожны з нас, так і Уладзімір Содаль абавязаны ўсім тым, хто на ніве беларускай культуры працаваў 200, 150, 100 гадоў назад. Абавязаны зямлі беларускай, на якой нарадзіўся, роднай Гомельшчыне, сваім бацькам, маці, якая тут з намі”. Сам Уладзімір Содаль лічыць, што найперш ён абавязаны Францішку Багушэвічу і Вінцэнту Дуніну-Марцінкевічу. І вядома ж, Максіму Багдановічу і Янку Купалу. Пад іх моцным уплывам фарміравалася творчая і грамадзянская асоба Содаля.

Содаля віншавалі ягоныя супрацоўнікі, сваякі, унукі — Сержык і Алесь. Першы, шасцігадовы, які марыць, як вырасце, стаць беларускім прэзідэнтам і вярнуць народу ягоныя сцяг і герб, прачытаў верш Ніла Гілевіча “Я — беларус”. Алесік — Багушэвічаву “Ахвяру”: “Маліся, бабулька, да Бога, каб я панам ніколі не быў...” Усіх і не згадаць, хто прывітаў Уладзіміра Содаля. Гэта доктар педагагічных навук, прафесар Еўфрасіння Андрэева, вядомы на Беларусі афтальмолаг Уладзіслаў Біран, мастак Мікола Купава, сакратар Таварыства беларускай мовы Людміла Дзіцэвіч, паэт-бард Анатоль Кудласевіч. Вечарына доўжылася амаль не чатыры гадзіны. Адразу ж зробім агаворку, што афіцыйных узнагарод да свайго юбілею Содаль не атрымаў, бо такое ахвярнае служэнне Бацькаўшчыне ў наш час не ўхваляецца ці, у лепшым выпадку, не заўважаецца. А ганараваў юбіляра ад імя грамадскага Камітэта ўшанавання пры клубе “Спадчына” прафесар Анатоль Грыцкевіч, які ўручыў Уладзіміру Содалю дыплом “Гонар Айчыны” і срэбны пярсцёнак з выявай “Пагоні”, з выгравіраванымі ініцыяламі “У.С.” і словамі “Жыве Беларусь”. Імя Содаля занесена ў Кнігу гонару “Рупліўцы твае, Беларусь”.

Уладзімір Содаль — адзін з тых, хто робіць беларускую справу цярпліва, прафесійна, таленавіта і шчыра. Ягоная яшчэ далёкая да завяршэння творчая старонка зойме належнае месца ў гісторыі нашай культуры.

**Ірына ЛЯКСЕЕВА.**



# Траянскі варыянт братняга саюзу

Для падтрымкі народнага духу неабходны ідэя і мэта. Камуністычная ідэя не можа цяпер аб'яднаць людзей нават фармальна. А іншых кіруючых ідэй не бачна, або яны расплывістыя. Вера ўмацоўвае дух. Нават камунізму і то лягчэй было чакаць, — чакаюць жа людзі другога прышэсця. Гэта — пытанне веры. А абяцанне рынку ўспрымаецца з недаверам. Дух трымаецца альбо праўдай, альбо марай. Але калі няма ні таго, ні другога, то змрочныя сёстры — апатыя і агрэсія — хапаюць чалавека за горла.

У СССР велізарны партапарат забяспечваў прапагандысцкі ўздым. У прапаганды, як у д'ябла, два галоўныя сродкі: спакушэнне і паклёп. Пяцігодкамі спакушалі, светлай будучыняй, паклёпам жа адсякалі незадаволеных і ў глыбокім летаргічным сне трымалі народны дух.

Пакуль не будзе яснага ўяўлення аб тым, што нас чакае, і калі нас гэта чакае, дух народа не ўзняць. І наадварот: будзе яснасць — людзі выцерпяць цяперашнія няшчасці. Пра гэта цудоўна пісаў Ніцшэ: "У каго ёсць Навошта жыць, можа выцерпець амаль любое Як" (жыць. — **Б. Ж.**).

"И какой же русский не любит быстрой езды", — сказаў М. Гогаль. Услед за класікам адзначым: а які ж рускі ці беларус не за саюз двух братніх народаў?! Аказваецца, такіх нямала. Парадокс у тым, што гэта перш за ўсё тыя, хто больш за ўсіх крычаць пра такі саюз, але хаваюць ад нас з вамі, які саюз ім патрэбен. Хто ж яны? Як на Беларусі, так і ў Расіі гэта ў першую чаргу лідэры левых партый і рухаў. Паўтараю, лідэры, але не радавыя члены. Апошнія не заўсёды дасведчаны ў прошуках сваіх "правадыроў".

Рэч у тым, што гэтым лідэрам упоперак горла стаяць дэмакратычныя рэформы, якія праводзяцца ўрадам Расіі пад кіраўніцтвам Прэзідэнта Б. Ельцына. У поспехах гэтых рэформ яны, не без падстаў, бачаць канец свайму палітычнаму існаванню. Вы толькі ўдумайцеся ў тое, пра што распавёў В. Чыкін у сваім дакладзе на XXXIV з'ездзе КПБ: "Сёння сілы рэакцыі ў Мінску, Маскве і іх гаспадары на Захадзе спрабуюць контраатакаваць Саюз. Тут і справа Шарамета і беспрэцэдэнтныя **па нахабстве** (падкрэслена мною. — **Б. Ж.**) крокі пана Ельцына і яго акружэння..."

Растлумачу, што сіламі рэакцыі ён лічыць (у тым ліку і ў гэтым складаецца фальш камуністаў) усіх прагрэсіўных дзеячаў, якія стаяць на іх шляху да ўлады і канчатковай мэты — сусветнай рэвалюцыі.

У вузкім коле некаторыя старанныя паслядоўнікі з левага блоку, выступленні якіх мне даводзілася слухаць, задаваць пытанні і ўступаць у палеміку, дзейнічаюць з адкрытым забралам. Яны, не саромеючыся, не падбіраючы мяккіх выказванняў, кляймяць расійскі ўрад і ў першую чаргу Б. Ельцына ганьбай: называюць крымінагенным, купленым на сродкі ЦРУ і заклікаюць да яго звяржэння. А прынародна робяць выгляд, што хочуць з ім саюза.

Што казаць пра такія кулуарныя выказванні, калі і ў друку мы чытаем падобнае. Прыкладаў — больш чым дастаткова. Скажам, той жа даклад першага сакратара Камуністычнай партыі Беларусі В. Чыкіна на XXXIV з'ездзе КПБ, дзе ён нават быў сціплым, сказаўшы: "Вырашыць усе гэтыя задачы ў адзіночку практычна немагчыма". Патрэбны саюзнікі. Такіх саюзнікаў у яго нямала і не толькі на Беларусі. У Расіі гэта лідэры так званай дэструктыўнай апазіцыі (у асноўным чырвона-карычневай): Г. Зюганаў, Г. Селязнёў, С. Бабурын, М. Рыжкоў, В. Іллюхін, А. Лук'янаў, А. Макашоў, В. Ампілаў, Л. Рохлін і г. д. і да т. п. Імя ім — легіён. Усе яны люта ненавідзяць Б. Ельцына, спрабавалі і спрабуюць звергнуць яго ўсімі дазволенымі і недазволенымі метадамі. Для іх усе сродкі добрыя і пры дасягненні мэты. Дык чаму б не пакарыстацца ў якасці траянскага каня і паслугамі нашых лідэраў? Ну а потым... яны ведаюць, каго і куды пасадзіць.

Да месца прыгадаць выраз Казьмы Пруткова: "Единожды солгавший, да кто тебе поверит". А сама КПСС, ае папярэднікі і прадаўжальнікі хлусілі не раз, не два, а кожны раз. Бо і трымалася яна толькі на **хлусні і страху**. Таму, хто гучней за ўсіх крычыць і шмат абяцае, як гэта заўсёды і ўсюды рабіла КПСС, нельга верыць ні на "цяперашнім", ні на якім-небудзь іншым этапе. Бо колькі іх ужо было пасля перавароту 1917 года, і яшчэ, не дай Бог, можа быць.

ЛіМ **Б. ЖАГРЫН**

# Кто разваливал Советский Союз?

Если бы целью изысканий по определению виновников развала СССР со стороны власти было, действительно, желание найти правду, то, думаю, что то, что будет написано в этой статье, было бы и до меня неоднократно озвучено. Однако молчат "правдолюбивые" коммунистические аналитики и журналисты. Виновными выставляются Ельцин, Шушкевич, Кравчук и Горбачев. И самое интересное то, что люди верят, что три человека могли развалить огромную страну, подписав лишь некие бумаги. Три человека оказались сильнее самой мощной в мире армии, самой сильной мировой разведывательной службы — КГБ. Три человека оказались политическими "гигантами", сильнее самого крупного в мире военно-промышленного комплекса.

Однако всяким словам, даже самым красивым и убедительным, противостоять могут голые цифры. Опровергнуть их невозможно, ибо за цифру можно и судиться. А цифры говорят, что за последние десять лет существования СССР этот гигант, располагая самыми богатыми в мире запасами полезных ископаемых, самыми большими в мире посевными площадями, ежегодно закупал у "гнилого" капиталиста огромное количество следующего продовольствия: 36 млн. тонн зерна, 2,2 млн. тонн растительных масел, 2,4 млн. тонн мяса и сала, 1,9 млн. животных жиров, 16 — 18 млн. тонн овощей и фруктов, 8 — 10 млн. тонн сахара. Это только из основного продовольствия. А вспомните о промышленных товарах. Рубашки, носки, костюмы, товары ширпотреба в огромных количествах ввозились из Польши и Чехословакии, Югославии и Финляндии. Разве возможно перечислить все страны, одевавшие и кормившие Страну Советов?

Того, что приходилось закупать за валюту, ежегодно хватало на прокорм 60 млн. человек! Это население Украины и Беларуси, вместе взятое. Чтобы все покупать, нужны были огромные деньги. А взять их можно было, только продав нефть, цветные металлы, золото, руды, лес и другое сырье.

Даже бездонная бочка теоретически имеет дно. Иссякали и запасы сырья, а его добыча становилась все дороже. В СССР работали заводы, на которых уже к середине дня было трудно найти трезвого человека. Для отчета перед райкомом запахивались огромные поля созревших урожаев. Военно-промышленный комплекс потреблял 40% всего бюджета огромной страны!

Страна, которая не могла себя одеть и прокормить, которая была пугалом для всего остального мира, которая съедала саму себя, была обречена на смерть. Строить коммунизм дальше уже не хватало денег.

На Украине, в Дашаве, было полностью выкачано газовое месторождение. В северных районах и в Сибири была выкачана легкая нефть, а та, что осталась, залегала на огромных глубинах. Добыча нефти в СССР сократилась с 640 млн. до 300 млн. тонн. Кормить и одевать нас бесплатно никто не собирался.

Кроме того, Запад успешно преодолел энергетический кризис, и цены на нефть и газ упали на 30%. Поэтому, продавая то, что можно было продать, на выходе получали меньше. Платить за продовольствие и товары широкого потребления стало нечем.

Эта проблема встала еще при жизни Брежнева. Именно на XXII съезде, а, вернее, сразу после него, заметно опустели полки наших магазинов. При Андропове, а затем и при Черненко проблема принимала масштабы общенационального бедствия. Особенно остро это проявлялось в самой России. За колбасой в Москву ехали за тысячи километров, а кому приходилось ездить из Минска в командировку в Москву, получали от друзей "заказы" на селедку и на чай, на кофе и "сухую" колбасу.

Одновременно с этим у населения, не имевшего возможности покупать, беспрерывно росла денежная масса на счетах. Государство заведомо "платило" людям пустые, ничем не обеспеченные деньги. В стране не осталось ни единого человека, который бы не "стоял" в очереди. "Стояли" за квартирой и машиной, за диваном и креслом, за холодильником и шкафом, по "заказам" распределяли кусок колбасы.

Ничем не обеспеченные сбережения населения в дальнейшем стали стартовым капиталом для обогащения не для хозяев этих сбережений, а для тех, кто имел возможность ими распорядиться. Именно они и стали старым номенклатурщикам стартовым капиталом, превращая их в "новых" русских. Людям впоследствии вернули обесцененные бумажки, а их настоящую ценность уже не вернет никто.

40% бюджета страны шло на военно-промышленный комплекс. В мирное время ни одна страна мира и никогда не могла себе такого позволить. Пугая свой народ некой угрозой с Запада, советские "оруженосцы" имели уникальную возможность для личного процветания. А в жизни было наоборот — все цивилизованные люди мира со страхом смотрели на вооруженного до зубов варвара. И пошла-поехала гонка вооружений, где Западу с его новейшими технологиями не составило особого труда поставить СССР на грань экономического краха.

И хотел бы или не хотел этого Горбачев, но история поставила его перед необходимостью перемен, иначе бы эти перемены сделал сам народ. А реформы у коммунистов — это всегда лишь поболтать языком. На словах, в сладких речах — одно, а на деле — совсем другое. И впервые в своей памяти народ Советского Союза зафиксировал понятие — инфляция. Не имея товаров и услуг под имеющиеся у населения деньги, в России и в Прибалтике резко подняли цены на все товары народного потребления. Подорожали хлеб, молоко, мясо, сахар, масло, табак и т.д. Россия подняла потолок зарплаты для своего населения. А для братьев-славян Украины и Беларуси денег "не нашлось". И начался скрытый грабеж одними "братьями" других. Из Украины и Беларуси в восточном направлении пошли товары, которые не были лишними и у их хозяев. Чтобы защититься, и те, и другие вынуждены были ввести талоны и купоны. В результате, единое экономическое пространство рухнуло, как карточный домик. Все начали вводить свои деньги, а российский финансовый диктат изначально сделал их неравноправными.

Вот так и приблизились Вискули, где Ельцин, Кравчук и Шушкевич лишь подтвердили сложившееся положение подписанием соответствующих документов. Юридически было оформлено то, что фактически существовало уже давно.

Но эти подписанные документы спасли жизнь десяткам, а может, и сотням тысяч молодых украинских и белорусских ребят. Ни Чечня, ни Таджикистан, ни другие военные конфликты напрямую не затронули Украину и Беларусь.

Тот, кто говорит о "трех злодеях", развалывших СССР, изначально врет. Используя доверчивость людей, их ностальгию по плохой, но стабильной жизни, безжалостно и цинично играет на чувствах, на их непонимании сложившихся реалий.

Распад СССР как одной из последних империй мира был исторически предопределен. Государство, построенное на крови и штыках, на лжи и беззаконии, никем не контролируемой большевистской ордой, посыпалось не от случайности, а лишь при первых признаках относительной свободы.

А кто разваливал СССР, станет известно всем еще в течение ближайших лет. Тот, кто заработал на развале огромные деньги, тот, кто задолго до развала вытворял с экономикой и сельским хозяйством что хотел, тот пока у власти. Тот уже объединяет и ведет, чтобы и на объединении еще раз обмануть народы.

"Здр. Смс." **Станислав ГУСАК.**

# РЫХТУЕЦЦА УНІКАЛЬНАЕ ВЫДАНЬНЕ

Днямі ў Беларускім фондзе культуры адбылася рабочая сустрэча ўдзельнікаў унікальнага выданьня — паэмы Адама Міцкевіча «Пан Тадэуш» на трох мовах — польскай, беларускай і рускай. Ідэя ажыцьцявіць такое выданьне да юбілею Адама Міцкевіча ўзьнікла з беларускага боку (у прыватнасьці, першапачатковыя захады рабіліся з боку старшыні праўленьня БФК Уладзіміра Гілепа) і была падтрымана ў Расіі дзяржаўным газэтна-часопісным аб'яднаньнем "Воскресение".

— Наш сумесны з Беларуссю праект, — сказаў генеральны дырэктар аб'яднання «Воскресение» Георгій Прахін, — абяцае стаць прыкметнай з'явай у культуры. Як вядома, на наступны год увесь свет адзначае 200-гадовы юбілей найвялікшага паэта Расіі Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна. Пушкіна любяць і ведаюць паўсюль. А вось паэта Адама Міцкевіча, які, дарэчы, быў сябрам Пушкіна, можна сказаць, у нас амаль не ведаюць. Больш таго, для шырокай публікі ў Беларусі Міцкевіч таксама малавядомы, — амаль што не выдаваўся, амаль што не вывучаўся ў школе, хацця ва ўсіх сваіх творах пісаў пра Беларусь, апяваў краіну, дзе ён нарадзіўся. Наша выдавецтва мае вопыт перавыдання твораў Пушкіна і, дарэчы, з усіх рэспублік былога СССР толькі Беларусь замовіла сабе пэўную колькасць камплектаў поўнага акадэмічнага выдання твораў Пушкіна, куды ўвайшло шмат чаго з раней невядомага. Спадзяюся, што выдадзеная нашым выдавецтвам кніга будзе галінкай у вянок памяці геніяў славянскай паэзіі.

Як жа будзе выглядаць гэтая кніга, якая па ўсіх параметрах можа лічыцца выданнем павышанай складанасці?

Па словах Язэпа Янушкевіча, вядомага беларускага даследчыка літаратуры XIX стагоддзя, першапачаткова меркавалася выданне ў трох тамах: том польскі, том беларускі і том рускі. Але аказалася, што ў Расіі ніхто сур'ёзна не займаўся ілюстраваннем паэмы Міцкевіча. У палякаў непераўзыдзеным майстрам лічыцца Андрыёлі, які зрабіў свае ілюстрацыі яшчэ ў XIX стагоддзі. З агульнай згоды вырашылі спыніцца на ілюстрацыях беларускага графіка Васіля Шаранговіча, які ў свой час, калі паэма «Пан Тадэвуш» выдавалася ў Мінску ў перакладзе Язэпа Семяжона, зрабіў да яе сваю мастацкую інтэрпрэтацыю. Што датычыцца перакладаў Міцкевіча на беларускую мову, то, як вядома, існуюць тры версіі, калі не лічыць зробленае В. Дуніным-Марцінкевічам (ён пераклаў адну ці дзве часткі паэмы і надрукаваў у маленькай кніжцы-брашуры ў 1908 годзе ў выдавецтве «Загляне сонца і ў наша аконца»). Вядомыя пераклады Б. Тарашкевіча і Язэпа Семяжона. Але існуе і яшчэ адзін пераклад — Пятра Бітэля, дасюль яшчэ не надрукаваны. На думку беларускіх літаратуразнаўцаў, гэта найбольш дакладны і з мастацкага боку дасканалы пераклад. Таму ў юбілейным выданні паэму «Пан Тадэвуш» прачытаюць у перакладзе Пятра Бітэля.

Прадмову і каментары да кнігі зробіць Язэп Янушкевіч. Васіль Шаранговіч ужо заканчвае працу пад ілюстрацыямі, якіх, прынамсі, будзе не 12, як у папярэднім выданні, а ўдвая больш.

Як абяцае генеральны дырэктар газэтна-часопіснага аб'яднання «Воскресение» Георгій Прахін, «Пан Тадэвуш» будзе хацця і вельмі дарагім выданнем з пункту гледжання матэрыяльных затрат, але даступным для самай шырокай публікі. Мяркуемы тыраж — 10 тысяч экзэмпляраў.

Не выключана, між іншым, што друкавацца кніга будзе ў Беларусі. Гэта дазваляе і паліграфічная база, і адносна танны кошт работы. Але пытанне гэта канчаткова не вырашана.

**Таццяна АНТОНАВА.**

НОВАЯ БЕЛАРУСКАЯ ПАЧТОВАЯ МАРКА







# У Маскве думаюць пра Беларусь

Леанід ЛЫЧ

АД МОМАНТУ чарговага абвяшчэння ў ліпені 1990 г. нашай краіны суверэннай дзяржавай яшчэ не было такога года, каб не ўзнікала сур'ёзнай пагрозы для захавання яе незалежнасці. Раз-пораз вылазілі на паверхню працўнікі суверэннай Беларусі то ўнутры яе — прычым нават з ліку высокага рангу палітыкаў, то ў суседняй Расіі, прапаноўваючы такія формы інтэграцыі, пры ажыццяўленні якіх Беларусь з цягам часу павінна была б страціць сваю палітычную самастойнасць. Такі ўжо лёс жыцця малых, нетытульных народаў у складзе поліэтнічных дзяржаў.

Разам з тым не было недахопу ў запэўніваннях з боку палітыкаў высокіх рангаў, што нават самая цесная эканамічная і культурная інтэграцыя Беларусі з Расіяй не пахісне нашага дзяржаўнага суверэнітэту. Не ведаю, наколькі палітыкі і вучоныя Расіі знаёмыя з такога роду выказваннямі беларускіх дзяржаўных дзеячаў, але мушу зазначыць, што ў суседняй нам усходняй краіне ўжо склаліся прынцыпова адрозныя погляды на праблему суверэнітэту Беларусі. У якасці доказу спашлюся на шэраг палажэнняў з вельмі капітальнай, грунтоўнай кнігі Аляксандра Дугіна "Основы геополитики. Геополитическое будущее России". Выйшла яна ў 1997 г. у Маскве ў выдавецтве "Арктогея". Яе навуковым кансультантам з'яўляецца загадчык кафедры стратэгіі Ваеннай акадэміі Генеральнага штаба Расійскай Федэрацыі генерал-лейтэнант Н. Клокатаў. У анатацыі на адвароце тытульнага ліста чытаем: "Книга является первым русскоязычным учебным пособием по геополитике... Формулируется геополитическая доктрина России.

Книга является незаменимым справочником для всех тех, кто принимает решения в важнейших сферах российской политической жизни..."

Карацей кажучы, манаграфія зусім не з разраду ардынарных. Яна не толькі ўздымае актуальныя праблемы, але і вызначае шляхі іх вырашэння. Многае з таго, пра што ў ёй гаворыцца, аніяк нельга пакідаць па-за ўвагай і асабліва, калі яно непасрэдна ці ўскосна датычыць Беларусі. А яна, дарэчы, не забытая і падаецца пад вельмі зваблым для нас загалоўкам "Объединение Белоруссии и Великороссии". Як бачым, гаворка ідзе не пра паглыбленне супрацоўніцтва паміж краінамі ў эканамічнай, палітычнай і культурнай сферах, а пра аб'яднанне. Што яно дае для краіны з нікчэмным, у параўнанні з магутным партнёрам, патэнцыялам, з гісторыі вельмі добра вядома, як вядома і з пабытавай практыкі, што здараецца пасля таго, як шклянку малака "аб'яднаеш" з цыстэрнай вады: апошняя нават і не пабялее.

Нашаму чытачу добра вядома, як працэс аб'яднання Беларусі і Расіі ўяўляюць палітыкі і навукоўцы сваёй гадоўлі і менш тое, як глядзяць на вырашэнне гэтай праблемы іх расійскія калегі. Пунктаў супадзення нямала, але ёсць і пэўныя адрозненні. У апошніх падыходы больш просталінейныя, зусім не раздічаныя на гульню ў хованкі, як гэта не раз ужо рабілася і робіцца нашымі дзяржаўнымі людзьмі. Не адмовіш у катэгарычнасці і тых ацэнак, якія фармулюе А. Дугін: "В отношении Белоруссии геополитическая картина довольно ясная. За исключением небольшой части полонизированных белоруссов (католиков и униатов, а также поляков), **подавляющее большинство населения однозначно принадлежит русскому пространству** (падкрэслена мною. — **Л. Л.**) и должно быть рассмотрено как субъект центрального евразийского этноса, т. е. как "русские" в культурном, религиозном, этническом и геополитическом смыслах. Языковая специфика, некоторые этнические и культурные особенности не меняют общей картины...

Белоруссию следует рассматривать как часть России [заўважце, што не як суб'ект ці паўнапраўны член федэратыўнай дзяржавы!]

... Настоящая западная граница России должна пролегать немного западнее [класічнай інтэрвенцыяй патыхае!], поэтому в полноценной геополитической картине белорусские земли скорее относятся к центральной области, чем к западной окраине".

У духу палітыкі колішняй царскай Расіі А. Дугін мерыцца вырашыць рэлігійнае пытанне на Беларусі. Не сакрэт, што апошнім часам яно абвастрылася, але ж не да такой ступені, каб звяртацца да такіх крутых метадаў, што прапануюцца ў кнізе: "Единственный болезненный шаг в Белоруссии, который необходимо предпринять [можа, усё ж дайце нам самім выбіраць крокі ў нашым доме] для предупреждения центробежных и подрывных тенденций (у дачыненні да Расіі. — **Л. Л.**), это выделение в особую административную категорию некоторых областей, компактно заселенных католиками и униатами вплоть до предоставления им значительной автономии [О, Божа праведны! Не дай чарговы раз нашым суседзям падзяліць нас!]... Стремления любой ценой удержать Белоруссию всю целиком [рыхтуйцеся і іншыя суседнія ёй дзяржавы паласавацца беларускім пірагом!] под прямым и жестким контролем Москвы приведет к тому, что и в ней самой и со стороны западных соседей Россия будет иметь тлеющие угли потенциального геополитического конфликта..."

Як усё гэта будзе ўлічвацца сённяшнімі нашымі палітыкамі, не магу сказаць, але, думаю, што пэўныя карэктывы ў канцэпцыю аб'яднання Беларусі і Расіі давядзецца ўнесці.

Наўрад ці пагодзяцца яны з тым, як глядзіць А. Дугін на культурна-моўнае развіццё Беларусі пасля таго, як яна стане часткай Расіі. Можа, гэта яго ход канём каб пастаралрацца схіліць на бок аб'яднання Беларусі і Расіі тую частку нашай інтэлігенцыі, якая справядліва лічыць, што такое аб'яднанне прывядзе да поўнай рускай культурна-моўнай асіміляцыі беларускага народа. А пазіцыю па гэтым самым набалелым для нас пытанні А. Дугін выказаў так: "...с Белоруссией Москва должна интегрироваться самым тесным образом, не забывая при этом о том, что поощрение культурной и языковой самобытности белорусов [дзякуючы майскаму рэферэндуму 1995 г. моўная самабытнасць беларусаў перажывае свае найгоршыя часы] является важным позитивным моментом во всей системе евразийской интеграции. В отношении этносов, принадлежащих к единому государству, этот принцип следует соблюдать столь же строго, как и в отношении пограничных народов или соседей".

Не, нашы палітыкі і тая частка інтэлігенцыі, што лісліва заглядвае ім у рот, ні ў якім разе не пойдуць на "поощрение культурной и языковой самобытности белорусов", бо маюць дыяметральна процілеглы погляд на дадзенае пытанне. Інакш не навязалі б у маі 1995 г. народу рэферэндум з мэтайураўнення сацыяльных функцый рускай і беларускай моў, наперад ведаючы, што на практыцы такая роўнасць немагчымая і заўсёды перамагае тая з моў, якая мае больш вопыт абслугоўвання ўсіх сфер дзейнасці чалавека; не працівілі б так упарта стварэнню, развіццю нацыянальнай сістэмы вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі, у якой яшчэ і па сёння не маецца аніводнай беларускамоўнай установы; не надавалі б такой прэстыжнасці рускім пачаткам у дзяржаўным сектары культуры і не дапусцілі б амаль поўнага выцяснення беларускага слова з афіцыйнага перыядычнага друку, асабліва рэспубліканскіх, абласных і гарадскіх газет і часопісаў. Цвёрда перакананы, што каб не мець клопатаў з заахвочваннем "культурной и языковой самобытности белорусов" у той пагібельны час, як Беларусь стане часткаю Расіі, нашыя палітыкі пры падказцы адданай ім часткі інтэлігенцыі пойдуць на чарговы рэферэндум і будуць усяляк імкнуцца атрымаць ад беларусаў згоду прызнаць іх мову рэліктавай, а таму вартаю поўнага забыцця і, значыцца, вызвалення дзяржавы ад усялякіх клопатаў па забеспячэнні ёй належнага месца ў грамадстве. І крайне здэнацыяналізаваны сваімі і прышлымі чужынцамі, адарваны ад уласных гістарычных каранёў і духоўнай спадчыны беларускі народ дасць такую згоду, прычым яшчэ больш катэгарычна і выразна, чым у час майскага рэферэндуму 1995 г.

Такія невясёлыя ў мяне разважанні і прагнозы ад азнаямлення з кнігай А. Дугіна. З імі я ўжо ў канцы леташняга года мог бы падзяліцца з чытачом, але наўмысна марудзіў, спадзеючыся, што ў палеміку з маскоўскім аўтарам уступяць дзяржаўныя дзеячы, вучоныя афіцыйных поглядаў. Прамаўчалі. Значыцца, цалкам згодныя з усім тым, што піша А. Дугін пра Беларусь. Толькі да канца не магу зразумець, чаму ж тады яны не спыняюцца запэўніваць народ у сваёй вернасці ідэалам дзяржаўнай суверэннасці нашай краіны? Паводле ж А. Дугіна, такія ідэалы ніхто не збіраецца гарантаваць Беларусі пасля ўключэння яе ў склад Расіі!

У гэтай зусім бязрадаснай, трагічнай для нас сітуацыі адзінае, чым толькі суцяшаеш сябе, што не толькі ж беларусы, апынуўшыся пад юрысдыкцыяй Расіі, страчваюць статус дзяржаўнага народа, становяцца нацыянальнай меншасцю. Не лепшую долю прадракае А. Дугін і другому братняму народу — украінскаму. Вось толькі некаторыя яго каларытныя выказванні: "Суверенитет Украины представляет собой настолько негативное для русской геополитики явление, что, в принципе, легко может спровоцировать вооруженный конфликт", "Украина как государство не имеет никакого геополитического смысла", "Безусловно, украинские культура и язык своеобразны и уникальны, но какого бы то ни было универсального значения они лишены", "Существование Украины в нынешних границах и с нынешним статусом "суверенного государства" тождественно нанесению чудовищного удара по геополитической безопасности России, равнозначно вторжению на ее территорию. Дальнейшее существование унитарной Украины недопустимо".

Каб і захацеў, дык лепшага ўзору "славянскага братэрства" не знайшоў бы. Ні чым іншым, як грубым умяшаннем ва ўнутраныя справы Украіны, трэба прызнаць заяву А. Дугіна: "Учитывая то, что простая интеграция Москвы с Киевом невозможна и не даст устойчивой геополитической системы, даже если это произойдет вопреки всяким объективным препятствиям, Москва должна активно включаться в переустройство украинского пространства по единственно логичной и естественной геополитической модели".

Інакш, як гульнёй з агнём не назавеш такія разважанні. Дзіву даешся, чаму сярод блізкародназных па гісторыі, культуры, рэлігіі і мове ўсходніх славян і раней і цяпер няма недахопу ў палітыках і вучоных, якія лічылі і лічаць, што правам на дзяржаўны суверэнітэт павінны карыстацца толькі рускія, а ўкраінцы і беларусы жыць толькі пад іх уладай? Чаму нас нічому не навучылі міжусобныя крывавыя войны, якія працяглы час вяліся паміж усходнімі славянамі за панаванне аднаго над адным? Сусветны вопыт шматкроць даказаў, што вышэйшай ступенню развіцця кожнага народа ёсць стварэнне ім сваёй уласнай суверэннай дзяржавы. Пад канец дваццатага стагоддзя яна, акрамя наяўнасці ў рускіх, з'явілася ва ўкраінцаў і беларусаў. У гэтых умовах свяшчэнны абавязак рускага народа, які мае багацейшую практыку дзяржаўнага развіцця, па-братэрску падзяліцца ёю з украінскім і беларускім народамі, каб дапамагчы ім ужо ў бліжэйшы час стварыць па-сапраўднаму цывілізаваныя суверэнныя дзяржавы. Чым хутчэй такое адбудзецца, тым хутчэй будуць зняты ўсе завалы на шляху цеснага, раўнапраўнага, узаемавыгаднага супрацоўніцтва паміж рускім, украінскім і беларускім народамі ва ўсіх сферах эканамічнага, палітычнага і культурнага жыцця. Лічу, што толькі наяўнасць ва ўкраінцаў і беларусаў у поўным сэнсе слова незалежнай суверэннай дзяржавы трывала зніту е іх з рускімі. Жыццё ў суверэнных дзяржавах ніколі не стане перашкодай для паглыблення паразумення паміж імі. Ні сёння, ні заўтра ў рускіх, украінцаў, беларусаў не будзе існаваць такіх праблем, вырашэнню якіх перашкаджала наяўнасць у кожнага з іх уласнай суверэннай дзяржавы. Хутчэй, наадварот, адсутнасць яе можа быць прычынай узнікнення рознага роду канфліктаў унутры ўсходнеславянскай супольнасці народаў. Таму любыя спробы аслабіць, падарваць наш дзяржаўны суверэнітэт, пад якой бы добрапрыстойнай падставай яны ні рабіліся, павінны выклікаць трывогу ў палітыкаў, нацыянальна свядомай часткі грамадства Беларусі. Я, да прыкладу, з вялікім жахам чытаў многія старонкі кнігі А. Дугіна.

Аднак было б несправядлівым не адзна-

чыць, што ў ёй шмат і такога, што з пераняценнем на беларускую глебу магло б прынесці вялікую карысць для нашага сучаснага нацыянальна-культурнага Адраджэння. У А. Дугіна, напрыклад, не шкодзіла б павучыцца, як трэба паважаць свой народ, верыць у яго стваральную сілу, хаця, не выключаю, што ў паасобных выпадках роля рускага народа істотна перабольшваецца, асабліва калі гаворка датычыць яго магчымасці ўплываць на вырашэнне лёсу іншых нацый. Сусветнай практыцы вядома процьма прыкладаў, як няпроста бывае выступаць таму ці іншаму выбранаму народу ў ролі месіі. А калі больш уважліва прыгледзецца, дык амаль заўжды, беручы на сябе такую ролю, ён больш клапоціцца пра свае, чым чужыя, інтарэсы.

І раней, і цяпер у падобнай ролі часта выступаў па волі сваіх палітыкаў, рускі народ. Праўда, гэта вельмі мала прынесла карысці яму і іншым народам. Здавалася, час паставіць кропку ў такой гульні, асабліва сёння, каб даць гэтаму з далёка не лёгкім лёсам народу цалкам сканцэнтравацца над вырашэннем сваіх унутрыдзяржаўных праблем зусім не думаць пра тое, як іх вырашаць у суседніх краінах. Не туды хіліць тытульную нацыю Расійскай Федэрацыі А. Дугін: "Русский народ безусловно принадлежит к числу мессианских народов. И как у всякого мессианского народа, у него есть **универсальное, всечеловеческое значение** (падкрэслена мною. — **Л. Л.**), которое конкурирует не просто с иными национальными идеями, но и с типами других форм цивилизованного универсализма". "Русским есть дело до всего и до всех, и поэтому в последнем счете интересы русского народа не ограничиваются ни русским этносом, ни Русской Империей, ни даже всей Евразией". Уяўляю, як гэтыя словы лашчаць душы многіх рускіх, бо іх жа спрадвеку выхоўвалі так. А вось мне не хацелася б, каб хтосьці з беларускіх палітыкаў ці вучоных нашаму народу прыпісваў якія-небудзь нацыянальныя суперякасці.

Звяртае ўвагу тая зайздросная аператыўнасць, рашучасць, з якой А. Дугін прапануе вырашаць глабальныя геапалітычныя задачы. "Воссоединение евразийских территорий под покровительством России как "оси Истории" сегодня сопряжено с определенными трудностями, но они ничтожны перед лицом тех катастроф, которые с неизбежностью грядут в том случае, если это "собирание Империи" не начнется немедленно". Каб мабілізаваць дзяржаўных дзеячаў да неадкладнага прыняцця канкрэтных эфектыўных захадаў, ён папярэджвае: "Если Россия немедленно не начнет воссоздавать Большое Пространство, т. е. возвращать в сферу своего стратегического, политического и экономического влияния **временно утраченные евразийские просторы** (падкрэслена мною. — **Л. Л.**), она ввергнет в катастрофу и саму себя, и все народы, проживающие в "Мировом Острове". А такая катастрофа, на думку А. Дугіна, з'яўляецца зусім рэальнай, бо падобную кантынентальную інтэграцыю могуць пачаць ажыццяўляць іншыя дзяржавы ці блокі дзяржаў. Як вынікае, праблем у рускага народа безліч, прычым вельмі тэрміновых.

Дзяржавы, якія бяруць на сябе функцыі аб'яднання народаў, імкнуцца адыгрываць першую скрыпку ў вырашэнні праблем сусветнага значэння, як вядома, называюцца імперыямі. Нашы афіцыйныя ўлады крайне незадаволены, што ў апазіцыйным, нацыянальна-адраджэнскім перыядычным друку і літаратуры не толькі колішнюю, але і сённяшнюю Расію называюць імперыяй. Таму, відаць, многіх такіх палітыкаў здзівіць, што адзін з раздзелаў кнігі А. Дугіна мае загаловак "Россия немыслима без Империи". Называе ён і СССР імперыяй, пішучы, што юнацтва яе прыпала на Леніна, спеласць — на Сталіна, старасць — на Брэжнева. Дзеля таго, каб ідэю імперыі зрабіць блізкай для рускага народа, аўтар гаворыць пра гэта, як пра зусім звычайную з'яву: "Русские готовы идти на немыслимые жертвы и лишения, лишь бы реализовывалась и развивалась национальная идея, великая русская мечта [вось бы дачакацца, каб хтосьці з беларускіх геапалітыкаў падобнае сказаў пра свой народ!] А границы этой мечты нация видит, по меньшей мере, в Империи... Русские сложились, развились и выросли как нация именно в Империи [ёсць поўная гарантыя, што і беларусы, як толькі іх краіна стане часткай не проста Расіі, а Расійскай Імперыі, стане развітой, паўнавартаснай нацыяй], в героике ее построения, в подвигах ее защиты, в походах за ее расширение. Отказ от империостроительной функции означает конец существования русского народа как исторической реальности, как цивилизованного явления. Такой отказ есть национальное самоубийство". Здорава напісана! Вышэй, думаецца, ужо і не ўздымеш аўтарытэт Расійскай Імперыі.

Без ніякага ўліку перамен у грамадстве афіцыйныя ўлады Беларусі ўсё яшчэ працягваюць беспадстаўна абвінавачваць у нацыяналізме тых, хто гатовы ісці на любыя выпрабаванні і ахвяры дзеля набыцця нашай краінай сапраўднага дзяржаўнага суверэнітэту, надання прэстыжнасці культуры і мове, нацыянальнай адукацыі ве карэннага насельніцтва. За ўсе такія высакародныя памкненні і дзеянні шчырым патрыётам Бацькаўшчыны прыклейваюць ярлык "Беларускі нацыяналіст!" Ах, як бы хацелася, каб нашыя дзяржаўныя дзеячы і вучоныя афіцыйных поглядаў пачыталі, што піша пра рускі нацыяналізм А. Дугін. Менавіта з гэтай з'явай ён звязвае вырашэнне ўсіх геапалітычных задач, што стаяць перад Расіяй. "Русский национализм должен апеллировать не только к настоящему нации, но и ее прошлому и ее будущему, взятым одновременно, как совокупность единого духовного существа. Это "существо" — великий русский народ в его сверхисторической тотальности — должно осознаваться каждым русским и узнаваться в самом себе. Факт принадлежности к русской нации должен переживаться как избранничество, как невероятная бытийная роскошь, как высшее антропологичное достоинство". Таму мо ўжо час спыніць усялякае цкаванне да крайнасці кволага беларускага нацыяналізму, які на ўсе дзевяноста дзевяць працэнтаў не дацягваў і не дацягвае да ўзроўню рускага нацыяналізму. Востры дэфіцыт здаровага прыроднага нацыяналізму ў беларускага народа — адна з прычын яго не да канца сфармаванай нацыянальна-дзяржаўнай свядомасці, глабальнай культурна-моўнай асіміляцыі, няздольнасці абараніць сябе ад чужародных уплываў.

Абмежаванасць рамак газетнага артыкула не дазваляе спыніцца і яшчэ на многіх прынцыпова важных палажэннях кнігі А. Дугіна. Спадзяюся, што на іх пастараюцца звярнуць увагу іншыя, бо нельга ж не цікавіцца тым, што думаюць у Маскве пра Беларусь. І вельмі пажадана, каб кніга А. Дугіна ў бліжэйшы ж час стала прадметам абмеркавання на пасяджэнні беларускага парламента ў прысутнасці нашых вучоных у галіне геапалітыкі. Нельга і надалей заставацца такімі, як сёння, наіўнымі, неабачлівымі палітыкамі ў вырашэнні лёсавызначальных для беларускага народа пытанняў. Займацца палітыкай, ды калі яна яшчэ судакранаецца з імперыяй, — гэта не язда з шыкам па праспекце Францішка Скарыны ў браніраванай машыне ў суправаджэнні шматлікага і шчыльнага эскорту міліцэйскіх мігалак.

## Калі зямля дадзена Богам, то і карыстацца ёю трэба па-боску

У парламенце Расійскай Федэрацыі небезвядомы сп. В.Стадрубцаў аднойчы заявіў: зямля дадзена Богам для ўсіх, таму нямажна, каб яна належала асобным людзям. Маўляў, вялікі гэта грэх... Якім вернікам стаў былы бязбожнік!

Як вядома, супраць прыватнай уласнасці на зямлю і сённяшняя беларуская ўлады.

Вось і хочацца ў заўзятых прыхільнікаў дзяржаўнасці зямлі спытаць: а хіба не большы грэх бязбожна і здзекліва карыстацца тым, што дадзена нам Усявышнім?! Ды яшчэ і на шкоду самім сабе! А што гэта так, вельмі многае сведчыць.

З таго часу, як гвалтоўная калектывізацыя пазбавіла зямлю законнага гаспадара-ўласніка, зрабіла яе калектыўнай, кожны чарговы генсек былога СССР пачынаў сваю палітычную кар'еру з "уздыму" сельскай гаспадаркі. Не ад добрага жыцця яны гэта рабілі. І якія толькі меры і захады не прымалі — нішто не дапамагала. Збожжа як завозілі з краін "гнілога капіталізму", так і завозім. Адна ад гэтага карысць: даведаліся мы, грэшныя, якія смачныя булкі з гэтай купленай пшаніцы. З нашай такія не атрымліваюцца.

І сёння, ва ўмовах "сацыяльна арыентаванай эканомікі", нічога не змянілася. Замест таго, каб вярнуць зямлі законнага гаспадара, — тое ж адміністраванне і камандаванне ды яшчэ ці не ў больш жорсткіх формах. Тыя самыя бясконцыя нарады на розных узроўнях па пытаннях: калі араць, сеяць, убіраць, рамантаваць тэхніку, даглядаць і карміць жывёлу... Адраджаецца і колішні інстытут упаўнаважаных, якія ў савецкія часы былі невычэрпнай крыніцай стварэння анекдотаў і розных жартаў.

Вось, бадай, і ўсё лепшае і каштоўнае, што бярэцца з "незаслужана забытага" мінулага.

Упарта ігнаруюцца эканамічныя законы, якія не дазваляюць ні абысці сябе, ні аб'ехаць. Жорсткі адміністрацыйна-камандны механізм, на які так спадзяюцца ўлады, дзейнічае ўхаластую. Марна губляецца час, энергія. Перспектыў — аніякіх. Крызіс не спыняецца, набывае новыя формы і праявы. Чарговыя абвальныя мутацыі "зайчыка" — яскравы таму доказ. Хоць і стараюцца стрымаць інфляцыю, яна працягвае рабіць сваю чорную справу.

Ну а што з нашай зямелькай-карміцелькай, гэтым боскім дарам, ад стану якога больш за ўсё залежыць эканоміка краіны?

Пазбаўленая сапраўднага гаспадара, які б душой і целам хварэў за яе, яна пакутавала і плакала ва ўмовах "светлага ўчора". Пакутуе, лье слёзы яна і сёння. Ад таго, што застаецца калектыўнай (гэта значыць — нічыёй), як тое дзіця, кінутае маці-"адказніцай". Ад таго, што няма сялянскага руплівага клопату аб ёй. Ад нядбайнасці і абыякавасці пры апрацоўцы глебы, заўсёднай недагледжанасці палеткаў, ад пустазелля і розных шкоднікаў, ад ядахімікатаў, якія забіваюць усё жывое ў глебе. Ад многага іншага, што абкрадвае, прыніжае і зневажае каштоўнасць і годнасць зямлі. Ды яшчэ і ад таго, што колькі ні крэдытуй аграпрамысловы комплекс, ён застаецца бяздонная бочкай.

А зямля ж, як вядома, — жывы арганізм, які адчувае дыханне чалавека, цеплыню яго рук, тое, як да яе ставяцца. Ёй зусім не абыякава, што на ёй красуецца — залатая пшаніца ці злоснае пустазелле.

Вядомы нарвежскі місіянер-прапаведнік хрысціянства, пралятаючы над тэрыторыяй рэспублікі, быў нямала здзіўлены нашымі палямі. "Гэта ж трэба, такая простора, такая раўніна — не тое, што нашы лапікі-шматкі, адваяваныя ў фіёрдаў, — захапляўся госць. — Ды вы ж са сваёй зямлёй усю Еўропу карміць можаце..."

Ці не праўда, такое прызнанне адначасова і прыемнае, і горкае. Прыемнае, бо які багаты наш край! Горкае, бо не ўмеем як след карыстацца Богам дадзеным дарам. Міжвольна прыгадваецца адзін паважаны эканаміст-сацыёлаг, які сказаў: "Калі хочаце, каб аазіс ператвырыўся ў пустыню, зрабіце яго дзяржаўнай уласнасцю. І наадварот, калі хочаце з пустыні зрабіць аазіс, пусціце туды прыватніка". Наша сацыялістычнае, а дакладней, калгасна-саўгаснае землекарыстанне — лепшая ілюстрацыя гэтага.

**Яфім ІВАНОВІЧ,**
**журналіст.**

*Вітаўт Кіпель:*

## «Свабоду нам ніхто не прынясе»

**Гэтымі днямі ў Магілёве праходзіла міжнародная навуковая канферэнцыя «Гісторыя Магілёва: мінулае і сучаснасць».**

Канферэнцыя атрымалася досыць прадстаўнічай: у ёй бралі ўдзел больш за 40 навукоўцаў з розных краінаў. У Магілёў прыехалі аўтарытэтныя ў свеце навукі і культуры людзі з Беларусі, Латвіі, Германіі, ЗША і Канады, Расіі.

Арганізаваў канферэнцыю музей гісторыі Магілёва. Дырэктар музея Ігар Пушкін лічыць, што канферэнцыя дазволіла па-новаму ўбачыць больш чым 730-гадовае мінулае слаўтага беларускага горада. Старажытны Магілёў падыходзіць да XXI стагоддзя з вялікім скарбам стратаў і набыткаў. Тут і веліч сярэднявечнага роскіту, і досвед мірнага міжэтнічнага, міжканфесійнага суіснавання, трагедыя неадназразовых войнаў, заняпаду і разбурэння, бальшавіцкага панавання і прыкладаў нацыянальнага адраджэння.

Чаго больш? З чым ісці ў трэцяе тысячагоддзе? Ад чаго адмаўляцца, а што трымаць заўжды ў руках? Пытанні і спробы адказаў на іх гучалі на лекцыях і ў спрэчках падчас працы канферэнцыі. Яна праходзіла ў Магілёўскім дзяржаўным універсітэце.

У кулуарах канферэнцыі я ўзяў кароткае інтэрв'ю ў вядомага беларуса з Нью-Йорка — Вітаўта Кіпеля, дырэктара Беларускага інстытута навукі і мастацтва.

**— Спадар Кіпель, што чувваць у Злучаных Штатах пра нашу краіну?**

— Беларусь ужо страціла ў Амерыцы рэпутацыю дэмакратычнай і незалежнай краіны. Мы безумоўна спрабуем патлумачыць, што ёсць розныя сілы, што беларускай дэмакратыі неабходна міжнародная падтрымка. Але ў нас многія кажуць так: калі самі беларусы не паімкнуцца дамагчыся свабоды, мы ім гэтай свабоды не прынясем.

**— Няўжо ўсё так змрочна?**

— Канечне, не. Напрыклад, гэтая канферэнцыя, дзе я пабачыў шмат выдатных людзей, сапраўдную сучасную беларускую інтэлектуальную эліту, пераконвае ў тым, што незалежная і вольная Беларусь мае несумненную будучыню. Ёсць каму берагчы і ратаваць нашую спадчыну.

**— Якая сёння беларуская дыяспара?**

— Яна моцна мяняецца. Сёння ў Амерыку прыехалі новыя людзі з Беларусі, маладыя, энергічныя. Яны розныя. Але вялікая колькасць з іх прыхільная да ідэалаў дэмакратыі і незалежнасці Бацькаўшчыны. Шкада, што некаторым даводзіцца пакідаць краіну па палітычных матывах. У нас яны актыўна далучаюцца да працы на карысць Беларусі. Ім удалося прыцягнуць да беларускай праблематыкі прадстаўнікоў амерыканскага Кангрэса.

**— Чым адметная гісторыя Магілёва?**

— Магілёў амаль заўжды быў буйным цэнтрам развіцця нацыянальнай культуры — асабліва ў Сярэднявеччы, але і ў пазнейшыя часы. Многія магілёўцы спрычыніліся да сусветнай гісторыі. Дастаткова назваць аўтара першага ўсходнеславянскага буквара Спірыдона Собаля, прэзідэнта Рэспублікі Гаваі Судзілоўскага, у еўрапейскіх хроніках таксама запісаныя святары Георгій Каніскі, Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч, вялікі пісьменнік Максім Гарэцкі, шмат іншых! Гісторыя Магілёўскага краю і горада яскрава сведчыць аб трагізме ўсёй нашай мінуўшчыны, у ёй шмат урокаў таго, дзе шукаць сябровў і як сябраваць з суседзямі.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**



ПРЫПАМІНАЕМ...
калі хочаце атрымоўваць "Беларускі Дайджэст" прысылайце АХВЯРУ на выдавецкі фонд газэты! Дзякуем!

Валянціна Трыгубовіч

## St. Tamara: «МАЯ — АМЭРЫКА, МАЯ — БЕЛАРУСЬ»

*"Мастацтва"*

Імя Тамары Стагановіч, беларускай мастачкі, якая жыве ў Злучаных Штатах Амерыкі, цяпер вядома не толькі яе землякам ды калегам. На выставе, ладжанай з нагоды Першага з'езда беларусаў свету ў 1993 годзе, увагу шматлікіх наведвальнікаў прыцягнуў трыпціх "Вера, Надзея, Любоў"; у 1994 годзе ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі была разгорнута яе персанальная выстава пад назваю "Амерыка — мая Амерыка". Дзякуючы спрыянню культурна-інфармацыйнай службы пасольства Злучаных Штатаў Амерыкі ў наступныя гады гэтая калекцыя пабыла ў Гродне, Лідзе, Полацку, Віцебску. У выступленні на вернісажы ў Мінску мастачка выказала мару: прывезці наступным разам сваю выставу "Беларусь — мая Беларусь". Узбагачаная ўражаннямі ад гасцявання на роднай зямлі, яна адчула ў сабе сілы для такой вялікай працы. І я мела магчымасць пераканацца, што задумы ўвасабляюцца ў палотны.

З абаяльнай і гаваркой спадарыняй Тамарай, яе разважным і дасціпным мужам Аляксандрам Кольбам мы сустракаліся неаднойчы — і там, за акіянам, і ў Беларусі. Шмат гаварылі пра жыццё і мастацтва. У верасні 1996 года па дарозе да іхняга дома (і студыі адначасова) трапілі ў такую залеву, якой мне за свае паўвека бачыць не даводзілася. Машына прыпадобнілася батыскафу, які плыве ў акіянскай тоўшчы. "Гэта тайфун зачапіў штат Нью-Джэрсі", — тлумачылі мае спадарожнікі. А праз колькі часу і "вока тайфуна" бліснула. На небакраі па-ранейшаму стаяла сцяна дажджу, а тут было суха і ясна. Праўда, вельмі нядоўга, бо мы не перапынялі свой шлях і зноў мусілі трапіць у вір вады і стыхіі. Ці не так, як у прыродзе, бывае і ў чалавечым жыцці, думаецца мне цяпер, калі я ўключаю дыктафон з запісам успамінаў, развагаў і каментараў Тамары Стагановіч. (Дарэчы, на творах яна ставіць подпіс St.Tamara).

— У маіх дакументах усюды напісана, што нарадзілася я ў Навагрудку, і я нават духоўна ўсведамляю гэта, хоць на самай справе месцам нараджэння з'яўляецца вёска Несутычы. Мой тата — Аляксандр Стагановіч, мама — Марыя Карпуцэвіч-Борыс. Старэйшы з маіх трох братоў — Аляксандр Стагановіч-малодшы, Шура, як мы звалі яго між сабою, памёр у 1974 годзе, бо прайшоў праз канцлагер Дахаў, быў там моцна збіты, захварэў туберкулёзам. Другі брат — Леў, наймалодшы — Юры. У Несутычах бацькі нашы мелі гаспадарку. Беларусы выбралі бацьку паслом у польскі сейм, а тагачасны рэжым засудзіў яго на шэсць гадоў зняволення. Калі ў 1939 годзе першы раз прыйшла савецкая ўлада, нашу сям'ю падалі на вываз у Сібір. Пазбеглі высылкі толькі таму, што пачалася нямецкая акупацыя. Пасля аднаго начнога візіту партызанаў, які вельмі напалохаў нас, мы пераехалі ў Наваградак. А ў 1944 годзе бацька вырашыў усёй сям'ёй падацца на Захад. Наш шлях ішоў праз Польшчу, Чэхаславаччыну, Аўстрыю. Мы не ведалі, ці жывы брат Аляксандр і што з ім адбылося, але, пэўна, боская воля пакіравала намі. У зруйнаванай Нямеччыне (у ваколіцах Мюнхена) пасля доўгіх і цяжкіх пошукаў мы спачатку атрымалі вестку, што ён жывы, а потым сустрэлі і яго самога... Сям'я нядоўгі час была разам: Аляксандра ўладкавалі ў шпіталь, дзе яго лячылі ад туберкулёзу, зрабілі некалькі аперацый, а мяне і Лёву тата адвёз вучыцца ў гімназію, удакладню — ва ўкраінскую гімназію. Мясціны там цудоўныя — Альпійскія горы. А мы ўсе былі гэтак званыя перамешчаныя асобы...

*— Спадарыня Тамара, на якой мове вялося выкладанне ў гімназіі? Ці вы ўжо вучыліся раней у школе? Дзе?*

— У гімназіі ў Айцваргу і Мітэнвалі (гімназія перамяшчалася разам з перамяшчэннем лагераў і людзей) выкладанне вялося на ўкраінскай мове. Памятаю, калі я толькі прыйшла, то сказала настаўніку ўкраінскай мовы, што я беларуска і не ўмею пісаць па-ўкраінску. "Нічога, — спакойна адказаў ён. — Выканай гэтае заданне па-беларуску." А потым прачытаў маю пісьмовую работу перад класам. Сказаў: "Дзеці, я хачу, каб вы пачулі, як гучыць беларуская мова". Даволі хутка я авалодала ўкраінскай мовай і была ў гімназіі сярод выдатнікаў. А пачыналася маё школьнае навучанне ў Несутычах, у польскай школе, у нас быў цудоўны настаўнік спадар Фукс. Праўда, чытаць я навучылася яшчэ дома, мама вучыла. Калі прыйшлі саветы, у школе пачалі вучыць на рускай мове. Падчас нямецкай акупацыі я два гады наведвала прагімназію ў Навагрудку. Колькі сябе памятаю, з самых малых гадоў, бацька вельмі часта і нам, і суседзям тлумачыў, як важна быць адукаваным: "Маёмасць могуць адабраць сілаю, веды застануцца пры табе заўсёды". І загадкавае слова "сарбон" запала ў свядомасць. Пазней я даведалася, што так завецца славуты універсітэт у Францыі. Ён быў як бы сімвалам бацькавых мараў. Бацька быў чалавекам сціплым, спакойным і справядлівым, ад 16 гадоў і да канца свайго жыцця ён працаваў на карысць незалежнай Беларусі.

*— Але не Францыю вы абралі месцам свайго сталага жыхарства?*

— Мы нацярпеліся столькі жаху ў блуканнях па зруйнаванай вайною Еўропе, так напакутаваліся ў лагерах для перамешчаных асобаў, змучыліся шуканнем брата Аляксандра, што хацелі адысці ад гэтага як мага далей. Толькі ў нашых мроях жыў ідэал: вольная беларуская дзяржава, дзе ўсюды чуеш беларускую мову, дзе трымаюцца беларускіх традыцый, дзе гучаць беларускія песні. Мама столькі іх мне наспявала! Вучыла ўсім звычаям і абрадам. Вельмі любіла кветкі. Якія прыгожыя раслі ў нашых Несутычах вяргіні!

Амерыка сустрэла нас няласкава. Пасля свежага альпійскага паветра мы трапілі ў тлумны і шумны Нью-Йорк, жылі на пятым паверсе. Вільготнасць і гарачыня. Я была адной з першых з ліку перамешчаных асобаў, хто атрымаў стыпендыю для працягу навучання. І ў 1951 годзе адважылася паехаць у Вестэрн-коледж у Оксфардзе, штат Агайё (Western College, Oxford, Ohio). Я страшэнна баялася ехаць адна, усю ноч цягніком, першы раз у чужой краіне... Толькі бацькавы настаўленні стрымалі мяне ад таго, каб на бліжэйшай станцыі выйсці і вярнуцца да сям'і. Я скончыла коледж за тры гады замест звыклых чатырох. Гэта была, як высветлілася, навучальная ўстанова для дачок багатых бацькоў. Мне нават уявіць сабе было немагчыма іх праблемы, бо ніколі падобныя перада мною не паўставалі. Ну, напрыклад, калі яны разважалі, у якой шафе размясціць 40 світэраў або як патлумачыць бацьку, што грошы патрачаны на 17 параў новых туфляў. На маё шчасце, мяне пасялілі адну ў пакоі.

*— А вы на той час ужо мелі нейкую мастацкую падрыхтоўку?*

— Ад самага дзяцінства я хацела быць мастачкай. Калі Шура і Лёва, якія вучыліся ў Навагрудку, прыязджалі на вакацыі, то Шура (ён ужо маляваў тады) заўсёды вучыў мяне. Дагэтуль памятаю, як ён першы раз паказаў мне, як выяўляецца перспектыва. І я цэлымі днямі малявала рэйкі, якія бягуць удалечыню, тэлеграфныя слупы і драты... Бацькі куплялі мне акварэльныя фарбы. А спадар Фукс, я ўжо згадвала гэтага цудоўнага настаўніка з Несутычаў, наладзіў маю першую выставу: паказаў малюнкі падчас акруговага з'езда. У Нямеччыне Шура працягваў займацца са мною. Дагэтуль зберагаю нашу агульную працу, выяву букецікa архідэяў у шкляной вазе. Ён быў нецярплівым настаўнікам; калі я нечага не разумела або рабіла не так, як ён хацеў, ён браў пэндзаль ці аловак і маляваў сам.

*— Як было наладжана навучанне ў коледжы?*

— Студэнт меў магчымасць сам выбіраць прадметы навучання і парадак іх засваення. Я імкнулася ўзяць як найбольш. Гісторыя мастацтва, алейны жывапіс, маляванне мадэляў... Мушу толькі ўдакладніць: коледж быў дзявочы, таму аголеная натура ў тыя гады праграмаю не прадугледжвалася. Калі пасля Western College я атрымала стыпендыю ў Калумбійскім універсітэце, то мне давялося перш узяць дадатковыя ўрокі малявання аголенай натуры. І я памятаю, які шок я перажыла, калі зайшла ў аўдыторыю, а там ляжыць голы мужчына... Тады гляджу: іншыя спакойна малююць і не звяртаюць увагі на мае страхі, ну, і я ўзялася за працу. Мой настаўнік, прафесар Акочы (паходжаннем быў з вугорскіх габрэяў, пасля перажытага ў час вайны перайшоў у хрысціянства), хваліў мае малюнкі і вучыў назіральнасці. Ён мог высыпаць перад студэнтамі мех цыбулі і прапанаваць маляваць яе. Потым павядзе ў бібліятэку і разгортвае адну за адной кніжкі з карцінкамі: вось так маляваў цыбулю гэты мастак, а вось як іншы... І зноў мы вяртаемся да натуры. Або паставіць нацюрморт, кветкі якія-небудзь, і кажа: "Не хочаш гэтага, малюй тое дрэва, што бачыш за акном". А другая настаўніца, яна паходзіла з Англіі, уключала класічную музыку і загадвала хуценька, вадзянымі фарбамі выказаць тое, што адчуваеш падчас слухання, што табе падказвае сэрца.

Ва ўніверсітэце праблема выбару выглядала ўжо крыху інакш. Бярэш для вывучэння нейкага мастака або мастацкую плынь і не толькі чытаеш даследаванні пра іх і глядзіш на творы (рэпрадукцыі), але і сам малюеш, пішаш у той самай тэхніцы, у той самай манеры. Мяне зацікавілі іконы ў візантыйскім стылі. Шмат чытала, маючы пэўныя цяжкасці, бо літаратура была пераважна на рускай мове і тэхнічныя тэрміны даводзілася ўдакладняць, кансультавацца з спецыялістамі. Калі я пачала пісаць тэмперай свой сюжэт, то памятала словы прафесара: яйка кожны дзень мусіць быць свежае. Жыла я тады ў Нью-Брансвіку і кожны дзень ехала цягніком у Нью-Йорк, у Калумбійскі універсітэт. Паблізу універсітэта і прыгледзела сабе крамку, дзе штодзень купляла адно яйка. Прадавец час ад часу перапытваў: "І больш нічога?" Аднойчы, калі я падышла плаціць за яйка, ён кладзе мне побач булачку і кажа: "Гэта задарма". Ён падумаў, што я не маю чаго есці. А наша сям'я жыла сапраўды вельмі сціпла. Чым скончылася тая гісторыя? Карціну ў тэхніцы візантыйскай іконы я напісала.

*— Значыць, гэта не было проста капіраванне іконы? Тэма, сюжэт абіраліся самастойна і маглі быць не звязаны з першакрыніцай?*

— Пэўна. У гэтым выпадку я паказала мексіканцаў у капелюшах, яны едуць на мулах... А іншым разам, калі я штудыявала Ван Гога (ён мне вельмі падабаўся), адзін з настаўнікаў, які прыйшлі прымаць работы, жартам кажа другому: "Мусім пільнавацца яе з гэтага моманту, бо пачне пісаць пад Ван Гога і прадаваць быццам ягоныя творы". А я тады здымаю адну невялікую карціну і прыкладаю да яе здымак беларускага краявіду. "Вось што мяне натхняла..." Як цяпер памятаю: поле, просты такі матыў.

Вельмі адмысловы быў курс кітайскага мастацтва. Прафесар нават не гаварыў па-англійску, яго асістэнт перакладаў нам. І вось у канцы семестра прафесар запрасіў нас да сябе на чай. Упершыню я бачыла кітайскае чаяпіцце як мастацкую акцыю. Чай быў лёгкага зялёнага колеру, у пасудзіне плаваў нейкі кавалачак, як бы галінка, ад якой адыходзіў зялёны лісток з белай кветачкай. Шкада было піць, хацелася проста глядзець на ўсё гэта. Калі мы ўсё ж дапілі чай, нас запрасілі ў студыю, дзе на доўгім стале была раскладзена папера, былі пэндзлі і чарніла. І прафесар паказаў, як імі карыстацца. Здавалася, так проста! А калі сама ўзялася, нічога блізкага да ўбачанай лёгкасці не было, бо там важна, як павернецца твая рука ў запісці, колькі чарніла ты набраў пэндзлем, як моцна націснуў. Проста жах, што мы "натварылі" ў той дзень, але як цікава было!

*— Вестэрн-коледж даў вам званне бакалаўра, Калумбійскі універсітэт — магістра. Што далей?*

— Зноў паўстала праблема выбару. Можна было пайсці працаваць выкладчыкам, займацца даследаваннямі ў галіне гісторыі мастацтва, і я мела адпаведныя прапановы. Але ў маёй свядомасці моцна заселі словы аднаго прафесара: "Той, хто можа, — малюе, хто не можа — выкладае". Да таго ж я вельмі сарамяжлівая ад прыроды, быць навідавоку, на людзях, някага вучыць здавалася мне проста вышэй маіх сілаў.

*— Як выглядае жыццё вольнага мастака ў Амерыцы?*

— Я б сказала, яно даволі цяжкае. Я ўвесь час сама, адна. Вядома, можна ўладкавацца на працу ў нейкую кампанію, можна наладзіць кантакты з нейкай галерэяй. Але гэта пэўным чынам абмяжоўвае творчыя парыванні. Галерэя, напрыклад, можа замаўляць вам кветкі з году ў год, бо на іх ёсць попыт. А вам чамусьці хочацца пісаць пейзажы. Мусіце тады самі шукаць сабе матэрыяльнае забеспячэнне. Бераце нейкую ідэю і пачынаеце яе ўвасабляць. Скажам, распрацоўваеце ўзор для вытворчасці і прапануеце яго клієнтам. Калі ваша прапанова прымаецца, маеце грошы і час, каб рабіць нешта іншае. Калі я бралася за ілюстраванне дзіцячых кніжак, то гэта займала шмат часу, патрабавала моцнага напружання, але матэрыяльныя набыткі былі вельмі сціплыя. Затое імя аўтара ілюстрацый з'яўлялася на старонках газет і часопісаў, кніжка трапляла ў бібліятэкі і можна было атрымаць водгукі на сваю працу — крытычныя або станоўчыя. Вядомасць, папулярнасць давала большыя магчымасці для атрымання цікавай працы, для ўдзелу ў выставах і розных іншых імпрэзах. Мне падабаецца спалучаць прыемнасці жыцця і задавальненне ад творчай працы. Такое было, калі я ўзялася за кніжку пра рыжых вавёрак. Я сама пісала тэкст і рабіла малюнкі. Гэтыя рыжыя вавёркі жылі побач з нашым домам. (Дом сям'і Кольба — Стагановіч стаіць сярод як бы некранутага лесу, тут раскоша і птушкам, і вавёркам. — **В.Т.**) Амаль два гады я гадзінамі назірала за імі, рабіла здымкі, малюнкі. Як яны гулялі, карміліся, гадавалі дзяцей. Розныя позы, розныя колеры. Тым часам і нейкія іншыя жывыя істоты ды навакольныя расліны траплялі ў поле зроку, я нават на старонках арыгінал-макета выпісвала іх лацінскія назвы. Гэта была надзвычай цікавая для мяне праца.

*— Алейныя работы вы пішаце толькі для выставаў ці маеце пакупнікоў-заказчыкаў?*

— Маю пакупнікоў, але толькі на гатовае. Не магу пагадзіцца з заказам, бо тады мне падаецца, што губляю сваё мастакоўскае "я". Лічу, што заўсёды павінна быць натхненне. Калі я пішу пейзаж, то праз яго хачу нейкую псіхалагічную энергію перадаць сваім гледачам, выказаць сваё адчуванне прыроды. Я шмат пра гэта думала, яшчэ калі пісала дыпломную работу на заканчэнне Калумбійскага універсітэта. Чалавек ёсць часціна прыроды, ён неадрыўны ад яе. Дрэвы, зямля, ты ляжыш на траве і адчуваеш, што вы адно цэлае. І гэтая тэма еднасці чалавека з наваколлям далей ідзе праз усё маё жыццё, наш дом невыпадкова стаіць сярод лесу. Раней мне падабаліся шырокія панарамы, адкрытая прастора, а цяпер усё больш уважліва пачынаю ўглядацца і ў драбніцы. Лісток, які паволі падае з дрэва ўвосень, насенне елкі, якое сыплецца з шышкі і прапелерам круціцца, імкнецца ўдалечыню. Парашуцікі адуванчыка натхнілі мяне на работу "Шчаслівага прызямлення!", бо глядзіш на іх, і неяк мімаволі мушана верыцца, што зярнятка прарасце з божай ласкі і зноў сонечныя кветкі будуць узрадоўваць настрой людзям.

*— Адкуль бярэ вытокі і ваша захапленне карэннымі жыхарамі Амерыкі?*

— Не столькі імі, колькі іх філасофіяй, іх стаўленнем да наваколля. Індыяне глядзелі на прыроду зусім інакш, чым новапрыбылыя людзі. І сёння распавядаюцца анекдоты, як індыяне прадалі Манхэтан (скалісты востраў, на якім быў узведзены Нью-Йорк. — **В.Т.**) за якія 20 даляраў. Пры гэтым пераселенцы лічаць дурнямі індыянаў, якія за бясцэнак аддалі востраў, а індыяне лічаць дурнямі белых, якія заплацілі за тое, што нічога не каштуе, бо адновькава належыць усім. Я шмат чытала пра стаўленне індыянаў да прыроды, пра іх цесную повязь з наваколлем. Калі ім трэба забіць звера або ссячы дрэва,

**(Працяг гл. на 12-ай стар.)**

# Ці дажывём?

КАЛІ ЎПЕРШЫНЮ пачула ад знаёмых пра забарону ў школе твораў Наталлі Арсенневай, Ларысы Геніюш, Масея Сяднёва, супакойвала ўсіх: "Гэтага не можа быць! У крайнім выпадку гэтага не можа быць так хутка, адразу, бо неабходна ж нейкае абмеркаванне, бо нават самы высокі загад з самых высокіх інстанцый не можа выконвацца сёння настаўнікамі, выкладчыкамі беларускай мовы і літаратуры, калі ён не мае пад сабой ніякага разумнага грунту. Бо ў нас жа ёсць літаратуразнаўцы, якія лепей ведаюць, чаго варты творы гэтых пісьменнікаў. Бо ў нас жа ёсць яшчэ наша беларускае друкаванае слова. І не толькі тое, што, імкнучыся абразіць, называюць "жоўтай прэсай". Бо ў нас жа ёсць яшчэ сілы, што не дазволяць такой ганьбы..."

Пэўна, не адна я была гэткай наіўнай.

Рэагаванне з боку тых, хто, "як дзяржаўны служачы, павінен выконваць распараджэнні зверху, хай яны паступаюць нават чынам тэлефоннага званка — аказалася імгненным: забараніць!

Ужо 27.01.1998 г. наша гарадзенская газета "Пагоня" надрукавала артыкул Алены Сіневіч "Ларысу Геніюш рэпрэсавалі ў другі раз". У ім на самым пачатку пададзена ксеракопія аб'явы, напісанай і вывешанай у настаўніцкай завучам старэйшых класаў СШ N 35 г. Гародні Ганнай Рабавай. Прыводжу яе цалкам на мове арыгінала:

Внимание!
В курсе бел. литературы исключить из программы изучение творчества
Сиднева,
Н. Арсеньевой,
Л. Гениюш
8.01.98 г.
Подпіс

Звярніце ўвагу на дату — ужо 8.01. Якая імгненная рэакцыя — "исключить"! Без усялякага роздуму, без імкнення прааналізаваць: чаму?

Далей аўтарка артыкула задае пытанне, апелюючы да сумлення такога стараннага завуча: "У вас не ўзнікла ніякіх унутраных ваганняў, калі вы пісалі гэты ліст?" Адказ ізноў жа прыводжу цалкам: "Гэта не мая асабістая ініцыятыва. Я, як дзяржаўны служачы, павінна выконваць распараджэнні зверху. Таму, пасля тэлефоннага званка з райана і азнаёміла настаўнікаў з сітуацыяй. А я асабіста люблю Геніюш, Сяднёва, праўда, не ведаю. А Арсенневу, я думаю, зразумела, чаму забаранілі..."

Вось так. Вось такое размеркаванне: Ларысу Геніюш люблю, Масея Сяднёва не ведаю (і гэта — праўда, мяркуючы хоць бы па тым, як было напісана прозвішча паэта ў той абвестцы), а пра Арсенневу... Што тут усім павінна быць "зразумела"? І зуфемізм "азнаёміла" са словам "исключить" мае надта прыблізна "аднолькавае" значэнне. А пасля "тэлефоннага званка"?..

Далей у артыкуле расказваецца, як "тэрмінова былі выкліканы ў кабінет усе выкладчыкі беларускай літаратуры, прыйшоў і дырэктар. Галоўнае, што турбавала адміністрацыю — якім шляхам ліст трапіў у "Пагоню". Педагогі кляліся ў сваёй добранадзейнасці. Ні ў кога з іх не ўзнікла думка пра маральны бок факту выключэння беларускіх паэтаў з праграмы. Як патлумачылі ў райна, аддзел адукацыі атрымаў ліст намесніка міністра адукацыі Генадзя Дыляна, дзе было прадпісана ў "сувязі са шматлікімі запытамі і публікацыямі ў прэсе не вывучаць у школе творы Сяднёва, Арсенневай і Геніюш".

Хоць і збітае ўжо параўнанне, але вельмі ж відавочнае: як у 30-ыя, па патрабаванні народа — знішчыць, забараніць.

Недзе ў тым часе я мела магчымасць сустракацца з настаўнікамі беларускай мовы і літаратуры. Натуральна, гаворка зайшла і пра гэту забарону. Спытала, хто з іх падпісваўся пад такімі лістамі, ці пытаўся хто іх думку. Ніхто і ніколі. Калі ж я пацікавілася, ці падпісалі б заяву-пратэст супраць той забароны, пераважная большасць аўдыторыі выказалася "за" (было каля паўсотні чалавек). Адна настаўніца, што ўстрымалася, папрасіла ўсё ж яшчэ раз патлумачыць прычыны няміласці да гэтых паэтаў. Найперш — пра Наталлю Арсенневу. Бо што можна казаць пра Ларысу Геніюш, якая столькі адпакутавала. "Имею честь терпеть за Беларусь..." Гэтак годна адказвала катам пра сваю "віну". У "Споведзі" ўдакладняе свае "правіны": І — беларуска, 2 — паэтка непаслухмяная, 3 — "кулацкае отродье", 4 — зэк!!! 5 — хрысціянка, 6 — сын у Польшчы, 7 — сябры па цэлым свеце, 8 — смяротна вінаватая за тастамент...

Што можна сказаць пра Ларысу Геніюш пасля таго, як мы маем і факсімільнае выданне зборніка "Ад родных ніў", дзе — ні аднаго верша, ні аднаго радка, які ўслаўляў бы фашыстаў, яе праўдзівы тастамент "Споведзь" — наш беларускі "Архіпелаг ГУЛАГ"?..

Калі завуч школы N 35 не ведае творчасці Масея Сяднёва (на жаль, завуч з такімі ведамі роднай літаратуры зусім не выключэнне), то навошта ж, каб вучні ведалі болей за свайго завуча? Навошта, каб яны ведалі, што і гэты цудоўны паэт таксама прайшоў праз сталінскае пекла, ніколі ні ў чым не здрадзіў Беларусі?..

І ўрэшце — "найбольш вінаватая" Наталля Арсеннева. Адны і тыя ж абвінавачванні: "фашысцкі прыспешнік", "здраднік", "рукі ў крыві". Абвінавачванні жахлівыя. Асабліва пастараўся пісьменнік Іван Новікаў, які, як многія лічаць, найлепш ведае гісторыю акупаванай Беларусі. Праўда, так не лічыў сам Панамарэнка, што быў на вяршыні арганізацыі падпольнага, партызанскага руху: "Іван Новікаў не ўсё зразумеў у мінскім падполлі" (з артыкула Івана Чыгрынава, змешчанага ў "ЛіМе" 25.11.1994 г.).

Чаму, любячы Ларысу Геніюш, калі гэта любоў праўдзівая, не прыслухацца да характарыстыкі паэткай мужа Наталлі Арсенневай Францішка Кушаля (а яго інакш, як ворагам, не называюць, і гэта яшчэ адна "віна" Арсенневай — жонка ворага): "Мала ў жыцці я сустракала так шляхотных, бескарысных патрыётаў, якім быў Кушаль. Ён, як і Вітушка, жыў і дыхаў толькі тым, што мог нешта рабіць для Беларусі".

Прыблізна гэтак гаварыла я перад той настаўніцкай аўдыторыяй. Тая настаўніца, што папрасіла мяне расказаць пра віну Наталлі Арсенневай, сказала: "З-за гэтага я б галасавала за выключэнне яе твораў з праграмы". Гэтым самым пацвердзіла: ёсць у нашым грамадстве людзі, якіх не пераканаеш, здавалася б, абсалютна лагічнымі доказамі. Але іх — адзінкі. Дык чаму менавіта ім, як тым 14-і падпольшчыкам, што падпісаліся пад артыкулам Івана Мартынава ў "Советской Белоруссии", дадзена права вырашаць, творчасць якіх беларускіх пісьменнікаў неабходна вывучаць у школе? Чаму не даць магчымасці настаўнікам побач са знаёмствам з творамі Наталлі Арсенневай расказаць і пра той выпадак, з-за чаго яе "рукі ў крыві"? Няхай вучні самі мяркуюць, самі вучацца ацэньваць наша мінулае. Няхай вучні ведаюць пра ссылку паэткі разам з сынамі ў Казахстан, дзе яны перанеслі пякельныя пакуты: сям'я ворага народа. Падумаеш, пані! Яе ж вызвалілі! А тое, што яна там перанесла, тыя жахлівыя здзекі? А само вызваленне? Як дабіралася да Масквы, вярталася назад, басаном бегалі па снезе, бегла да дзяцей, бо не ведала, ці жывыя? Ізноў жа пра паэта найпершае сведчанне — ягоныя творы. Чаму яшчэ раз не перачытаць зборнік паэткі "Сягоння", выдадзены ў акупаваным Мінску? Ці ж ёсць там хоць адзін радок-хваласпеў немцам, фашысцкай уладзе? Няма. Для гэтага не трэба было грамадзянскай мужнасці? Яшчэ як патрэбна была. Бо кожны антынародны рэжым заўсёды патрабаваў да сябе прыхільнасці. Што казаць пра той жахлівы ваенны час, калі ў савецкія часы ў цудоўныя лірычныя кніжкі беларускіх паэтак урываліся оды, гімны кіруючай партыі і яе мудрым правадырам. Ад адной паэткі даведалася: яе зборнік доўга ляжаў у выдавецтве, ніяк не мог пабачыць свет. Урэшце ёй і "патлумачылі сітуацыю": "У вас няма ні аднаго верша, прысвечанага партыі, савецкай уладзе". Напісала. Кніга выйшла хутка. Вершаў-хваласпеваў фашыстам Арсеннева не толькі не ўключыла ў зборнік, іх не было. Было палымянае жаданне будаваць Беларусь. Хай і ў тых варунках. Іншых, больш спрыяльных, не было. Было балючае ўсведамленне, як і ў Ларысы Геніюш: гітлерызм і бальшавізм — і ніякай трэцяй магчымасці для Беларусі.

Якраз зараз 15 гадоў, як няма на зямлі Ларысы Геніюш. Не мінуў і год, як не стала Наталлі Арсенневай. У далёкай Амерыцы Масей Сяднёў. Ягоныя незвычайныя, цудоўныя лісты дапамагаюць мне сёння жыць. Не, не выжыць, а жыць. Прыгожа, годна. Не ведаю, ці паведаміў яму нехта пра гэтую забарону. Я пакуль не асмельваюся. Мне сорамна. Я ўсё яшчэ чакаю, што скажуць тыя, хто лепей ведае, чаго вартае творчасць сёння забароненых паэтаў.

Тое, што іх імёны будуць вернуты ізноў, не сумняваюся ні на хвіліну. Бяда толькі, ці дажывем мы да Беларусі, дзе перастануць шукаць ворагаў?

**Ала ПЕТРУШКЕВІЧ**
*г. Гародня*

## Дзве Беларусі

«НІВА»

Пасля таго, як Лукашэнка разбурыў надзеі на хуткае нацыянальнае адраджэньне, у патрыятычна настроеных інтэлігенцкіх кругах Менска з'явілася тэорыя аб дзьвюх паралельных Беларусях. Адна — наша, незалежная, беларускамоўная, бел-чырвона-белая, а другая — іхняя, саўковая, безнацыянальная, чырвона-зялёная. Тэорыя гэтая нечакана знайшла пацьверджаньне на сёлетнім Фестывалі царкоўнай музыкі ў Гайнаўцы.

Паколькі фестываль міжнародны, дык падчас яго правядзеньня каля сабора Святой Тройцы, каля Гайнаўскага дома культуры і над вуліцамі горада вісяць сьцягі краін-удзельніц фестывалю. Штогоду, як вядома, у фестывалі ўдзельнічаюць хоры з Беларусі. І штогоду арганізатары вывешваюць беларускі бел-чырвона-белы сьцяг. Сёлета не спадабалася гэта саветніку пасольства Рэспублікі Беларусь у Варшаве Уладзіміру Каральчуку. Маўляў, прыехалі да вас хоры не з тае Беларусі і вывешваючы сьцяг іншай краіны вы нас ігнаруеце і абражаеце. У арганізатараў, аднак, іншага сьцяга не было.

І тут беларуская дыпламатыя спрацавала. У Гайнаўку прывезьлі чырвона-зялёны сьцяг, хаця і напалову меншы за астатнія. Ад гэтага моманту перад саборам Святой Тройцы віселі сьцягі дзьвюх Беларусяў: з аднаго боку бел-чырвона-белы, а з другога, адсунуты на прыстойную адлегласьць і ўдвая меншы — чырвона-зялёны лукашэнкаўскай Рэспублікі Беларусь. **М. В.**

Мы ня зьдзівімся, калі ў наступным годзе саветнік пасольства Рэспублікі Беларусь загадае вывесіць «ікону» Сталіна. І арганізатары ў Гайнаўцы напэўна гэта выканаюць з рабскаю паслухмянасьцю.



## Нас паменшала на 7 тысяч

З пачатку гэтага года колькасць насельніцтва Беларусі яшчэ скарацілася на 7,1 тысячы чалавек. На першае красавіка яна складала 10.196,7 тысячы чалавек. На першае студзеня нас было 10.203,8 тысячы чалавек. З кожным месяцам насельніцтва краіны ўсё змяншаецца і змяншаецца.

**Андрэй РУСАКОВІЧ.**

## Распадаюцца сем'і. Чаму?

Па колькасці разводаў Беларусь займае адно з першых месц у СНД. НА 100 шлюбаў прыпадае 68 распадаў сем'яў. Прычым гэты паказчык расце. Так, у студзені—сакавіку гэтага года на тысячу насельніцтва ў нас зарэгістравана 5,3 развода супраць 4,6 у 1997 годзе. У выніку каля 40 тысяч дзяцей ва ўзросце да 18 гадоў выхоўваюцца ў няпоўных сем'ях.

**Сяргей ВАСІЛЬЧУК.**

## С. БАГДАНКЕВІЧ і Ю. ХАДЫКА Ў ЗША.

Старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі Станіслаў Багданкевіч і намесьнік старшыні БНФ Юрка Хадыка адведалі ЗША па запрашэньні Міжнароднай лігі правоў чалавека.

У часе свайго пабыту ў Амэрыцы яны некалькі разоў сустракаліся з амэрыканцамі беларускага паходжаньня, з лідэрамі беларускіх грамадзкіх, культурных і палітычных арганізацыяў, а таксама наведалі Вашынгтон, дзе Спадар Ст. Багданкевіч меў даклад "Беларуская эканомія: дзе старыя прыёмы не працуюць". Адбыліся і іншыя важныя спатканьні з амэрыканскімі ўплывовымі асабістасьцямі і арганізацыямі.

У гэтым самым часе быў паказаны фільм "Звычайны прэзыдэнт" у Сэнаце Злучаных Штатаў Амэрыкі. Прадукцыю фільма зьдзейсьніў Сп. Юры Хашчавацкі, які таксама наведаў нашу краіну.




**Супрацоўнікі газэты «Беларускі Дайджэст» выказваюць глыбокае спачуваньне**
**Сп. Міколу Латушкіну, знанаму царкоўнаму і грамадзкаму дзеячу ў Чыкага, з прычыны трагічнае сьмерці ягонае жонкі Зоі Латушкін, у дзявоцтве — Багдановіч.**

## St. Tamara — Мая АМЭРЫКА...

(заканчэньне з 10-е стар.)

яны перш просяць прабачэння ў прыроды і тлумачаць, дзеля чаго яны мусяць такое зрабіць. І я, калі малюю, раблю тое самае. Мой брат Юра па службовых справах шмат ездзіў па Злучаных Штатах і часта бываў у Каларада, у гарах: лавіў вудаю рыбу, катаўся на лыжах. Аднойчы ён прывёз мне ў падарунак збаночак з індыянскага паселішча. (Трэба сказаць, што кераміка індыянаў вельмі адмысловая і разнастайная. Кожнае племя, кожнае паселішча мае свае сакрэты яе вырабу і адметныя ўзоры.) Прывезены збаночак быў чорнага колеру і аздобу меў чорную, толькі шліфаваную. Ува мне быццам нешта ўскалыхнулася, нейкія ўспаміны з чытанага ці пачутага ад старэйшых пра традыцыйную чорную кераміку Беларусі. Хоць была яна, здаецца, не зусім чорная, хутчэй цёмна-сівая. І тады мы з мужам вырашылі праехаць па індыянскіх рэзервацыях. Амаль месяц правялі ў штаце Нью-Мексіка, пераязджалі з паселішча ў паселішча. Я захапілася ўбачанай архітэктурай, будаўнічымі прыёмамі. Уражвала еднасць створанага чалавечымі рукамі з адвечным краявідам. Пабудовы былі заўсёды ў гарманічнай повязі з небам і зямлёй. І колерамі сваімі, і формаю дахаў яны ўпісваліся ў наваколле, не парушалі яго рытму і натуральнасці. У адным паселішчы мы апынуліся якраз на куццю. Індыяне там былі каталікамі. І вось мы назіралі, як перад поўначчу яны адбылі імшу, а потым павялі карагоды вакол плошчы. Яны неслі з сабою крыжы, іконы і свечкі, але ўсе былі ў індыянскіх строях, мужчыны — з вінтоўкамі, час ад часу яны стралялі ўгору, і ўсе спявалі нейкія свае індыянскія песні, ведаеце, такім "адкрытым" голасам. А вакол плошчы месціліся іх хаткі з плоскімі дахамі, гэткімі тэрасамі ўзнімаючыся па схілу гары. І на гэтых плоскіх дахах былі падрыхтаваныя кастрышчы. Бо гэта ж была зіма, і там холадна. У адно імгненне запалалі вогнішчы, зрабілася горача і светла, як удзень. Я так была ўзрушана! "Мурашкі" бегалі па целе, я ледзь не плакала... Гэтыя ўражанні застануцца са мною на ўсё жыццё.

Іншым разам, калі мы паехалі ў Арызону, мы спыніліся ў рэзервацыі Гопі, дзе пабудаваны гатэль для турыстаў, ёсць прыстойны рэстаран і іншыя сервісныя службы. Мы ўзялі сабе гіда, маладую жанчыну-індыянку, і яна павезла нас па ваколіцах. Там была аграмадная высокая гара з даволі плоскім верхам, на якім месціліся тры маленькія паселішчы. Самае старое з іх мела больш як 1500 гадоў, да яго і цяпер няможна даехаць, давялося кінуць машыну і ісці пешкі. У адной з вёсак было нейкае свята, нас запрасілі зайсці ў хату. Гід нам сказала, што трэба абавязкова нешта прынесці з сабою. Мы купілі салодкія напоі і пірог... Жанчына, якая запрасіла, частавала нас і распавядала пра тамтэйшыя звычаі. Мне вельмі спадабалася: у іх хаты і маёмасць належаць жанчынам, жанчына ўсім кіруе, калі бяруцца шлюбам; то мужчына ідзе жыць да жанчыны. У нас бы сказалі —у прымы. У вёсках свае бажніцы, свае звычаі — людзі на свята ішлі размаляваныя, з маскамі — галовамі бізонаў. Наша гід, як высветлілася з размовы, скончыла коледж у Масачусетсе, вярнулася ў рэзервацыю, выйшла замуж, але праз пяць гадоў развялася. На маё пытанне, з якой прычыны, патлумачыла, што ў іх такі звычай: пяць гадоў даецца на пазнанне адзін аднаго. Калі не сышліся характарамі, то ніхто не трымае людзей разам.

На зваротным шляху яна звярнула нашу ўвагу на закінуты хрысціянскі храм ля падножжа гары. Вось, маўляў, белыя прыехалі і хацелі наша жыццё перарабіць, накінуць нам сваю рэлігію. Яна гаварыла так строга, што мне стала страшэнна сорамна, я пачала апраўдвацца, што мы толькі турысты, нічога кепскага індыянам не зрабілі... Безумоўна, яна ж не пра нас асабіста вяла гаворку. Але сама тэма балючая. Паўсюль у свеце знаходзяцца людзі, якія трымаюцца сваіх традыцый, якіх не могуць перайначыць ніякія місіянеры, якія вераць у што вераць, і менавіта гэта дае ім сілы жыць. Індыяне тых паселішчаў, напрыклад, былі перакананы, што на гары, якая ледзь бачная праз смугу міляў за сорак ад іх, жывуць багі, якім трэба маліцца, калі хочаш, каб у спёку пайшоў дождж... І так супала, што дождж тады сапраўды пайшоў. Я не ведаю, як трэба тлумачыць такія сустрэчы і здарэнні.

*— Паездка ў Беларусь, пэўна ж, не была настолькі экзатычнай?*

— Яна была такой доўгачаканай... Калі я ўжо збіралася ў дарогу, мая мама, якая пачувалася вельмі слабай, брала мяне за рукі і бясконца перапытвала: "Няўжо сапраўды ты едзеш у Беларусь? Няўжо сапраўды ты будзеш мець там выставу?" І мне так шкада, што ні тата, ні мама не здолелі вярнуцца на Бацькаўшчыну. З думкамі пра яе яны пражылі ўсё жыццё. Мяне, як вы ведаеце, запрасіў Нацыянальны мастацкі музей, дырэктар Юры Карачун. Усе арганізацыйныя клопаты ўзяў на сябе мінскі мастак Сяргей Крыштаповіч. Я ўдзячная ім за сардэчнасць і дапамогу, а ўсім спонсарам — за матэрыяльную падтрымку. Быў выдадзены каталог, цудоўна прайшло адкрыццё. У экспазіцыі было некалькі дзесяткаў твораў жывапісу і графікі, якія паказвалі пераважна краявіды розных штатаў. Я мела ў Беларусі шмат цікавых сустрэчаў і знаёмстваў. Найперш я адкрыла для сябе паважную грамаду родзічаў і сваякоў. Некаторых ведала па перапісцы, але асабістыя кантакты — іншы ўзровень блізкасці. На сустрэчу ў Мінск прыехалі нават тыя, хто стала жыве ў Малдове і Украіне. Вядома, мы з мужам адведалі Несутычы, Наваградак, Мір, Нясвіж, Заслаўе... Я імкнулася пазнаць хоць што-небудзь з таго, што адбілася ў памяці з дзяцінства. У Мураванцы, дзе прайшло маміна дзяцінства, усё пазарастала, але мураваныя дамы зберагліся. Краявіды Наваградчыны я нанова адкрывала для сябе. Іх рамантычная пагоркавасць зрабіла моцнае ўражанне. Пазнала касцёл у Наваградку: мы жылі ў часе вайны якраз насупраць. А замак неяк згубіўся: той магутны вобраз, які жыў у памяці, які паўставаў калісьці яшчэ з дарогі, знік. Замак засланіўся высокімі будынкамі. Па гэтай дарозе з Несутычаў прывозілі нам хлеб ад татавай сястры. І мама пякла смачны, але цётчын быў асаблівы. Таму аднойчы я спытала: "Цётка Волька, чаму ваш хлеб маслам пахне?" А яна кажа: "Бо я смятану дадаю ў цеста". Ведаеце, часам драбніцы моцна западаюць у памяць і робяцца нейкім сімвалам ці вобразам. У час гэтай нашай паездкі ў Беларусь было некалькі такіх здарэнняў. Аднойчы, калі мы ехалі недалёка ад Мінска, я моўчкі пазірала праз шкло, а ўва мне як бы гучаў голас: "Вось твая зямля, вось твой народ..." Заходзіла сонца, на полі жанчыны выбіралі бульбу. І на мой настрой неяк дзіўна падзейнічалі асвятленне, сагнутыя постаці, адвечны характар іх працы... Я яшчэ не ведаю дакладна, як скампануецца твор, але я яго ўжо адчуваю, краявід цалкам гатовы ў маім уяўленні, з людзьмі больш складана.

*— Я звярнула ўвагу, што вы любіце пераважна "бязлюдныя" кампазіцыі, тым больш нечаканым было, што ў беларускія даведнікі і энцыклапедыі вы ўвайшлі трыпціхам "Вера, Надзея, Любоў". Мяркую, рэдактары проста выбіралі сюжэтны твор, да таго ж ён паказальны спалучэннем беларускай і амерыканскай рэчаіснасці.*

— Вы ж ведаеце, якую вялікую працу нацыянальна сведамыя беларусы вялі (і вядуць) у Злучаных Штатах, пашыраючы веды пра нашу краіну, яе культуру, яе гісторыю і сучаснасць. Адной з формаў гэтай працы з'яўляецца ўдзел у фестывалях, дзе кожная этнічная група ладзіць сваю экспазіцыю, канцэрт, паказ нацыянальных строяў, кухні і ўсяго падобнага. У ранейшыя гады мне звычайна даручалася парупіцца пра касцюмы. Каб зрабіць эскізы, я працавала ў бібліятэцы, кансультавалася з нашымі жанчынамі старэйшага веку. І бясконцыя варыяцыі белага і чырвонага, белага-чырвонага-чорнага трывожылі мяне, патрабавалі нейкага асэнсаванага мастакоўскага выказвання. Наступным "штрыхом" стала поле спелай збажыны, якое мы ўбачылі з Аляксандрам недалёка ад нашага дома. Я пераапранулася ў беларускі строй, узяла стары серп, які мы некалі купілі ў антыквара, гліняны збанок, і муж зрабіў мне мноства здымкаў у розных позах сярод гэтай збажыны. Прыдалося ўменне жаць. Мама некалі вучыла: "Ты мусіш умець усё рабіць, бо ты ў мяне адна дачка, і нельга, каб людзі казалі, што вырасла спешчаная". Вось з гэтага і паўстаў зборны вобраз беларускай Амерыкі. Жанчыны — захавальніцы традыцый свайго народа: жнеі, спявачкі, майстрыхі.

*— Вы лічыце, што здолелі выказаць сябе ў мастацкай творчасці?*

— Я па-ранейшаму імкнуся рабіць гэта. У кожнай карціне — мае думкі, маё бачанне навакольнага свету. Я не лічу для сябе патрэбным кожную раніцу з мальбертам ісці маляваць усход сонца, ды і не вучылі мяне такому. У мае студэнцкія гады панавала абстрактнае мастацтва. Але абстракцыя — гэта адарванне чалавека ад прыроды, а я са сваім выхаваннем і мамінымі кветкамі не магла зрабіць такое. Перакананa: прырода ёсць найлепшы твор, які можна сабе ўявіць. Аднак я зусім не натураліст, не копія краявіду патрэбна мне. Думка і замілаванасць — вось галоўнае. Часам падрыхтоўчы перыяд доўжыцца нашмат больш, чым непасрэдная праца над творам, незалежна ад таго, будзе гэта вялікае алейнае палатно ці графічны аркуш. (Дарэчы, мне вельмі падабаюцца графічныя тэхнікі, дзе шмат, так бы мовіць, ручной працы, — літаграфія, малюнак пяром з мноствам дробных штрыхоў.)

***— Дзякую вам, спадарыня Тамара, за цікавую і змястоўную гутарку. Спадзяюся, што прэм'ера выставы "Беларусь — мая Беларусь" адбудзецца ў Мінску. У вашай сям'і ўжо ёсць багаты вопыт руплівай працы і цярплівага чакання.***

**М**

## П'ЯНАЯ ВЁСКА

(працяг з 4-й стар.)

ныя такія ў нашай вёсцы?

У думках крочу з адной хаты ў другую — вось у гэтай гаспадар спіўся, жонка памерла, двух сыноў забралі ў школу-інтэрнат. А тут жыве маладая яшчэ сям'я — трое маленькіх дзяцей. Галодныя, халодныя, яны ніколі не паелі ўволю. Апранаюць тое, што аддаюць ім спагадлівыя дачнікі. Як толькі ў іхніх бацькоў заводзіцца якая капейчына, тыя адразу нясуць яе ў магазін. Потым — гулянка, якая, як правіла, заканчваецца сваркай або бойкай. І тады старэйшы хлопчык забірае сястрычак і яны бягуць на другі канец вёскі да бабулі... А вось у гэтай хаце наогул адбылася трагедыя. П'яны сын патрабаваў грошай на выпіўку у бацькоў-пенсіянераў, грошай не было, і ён збіў старых так, што маці памерла, а бацьку з цяжкімі пабоямі забралі ў бальніцу. Калі працверазіўся, сын павесіўся. Можа, не трэба ісці далей, можа, трэба спыніцца...

Мой свёкар, які ўсё жыццё правёў у Загор'і, расказвае, што ў яго маладыя гады такога не было — вяскоўцы ніколі не дазвалялі сабе блытаць работу са святамі, у час гарачай пары ніводзін паважаючы сябе мужчына да чаркі не прыкладваўся. А да тых, хто гэта рабіў, адносіліся зняважліва. Зразумела, адзначалі і святы, але людзі ведалі меру, а п'яных не паважалі — не ўмееш піць — не бярыся. «Бога тады баяліся», — гаварыў свёкар.

Пры савецкай уладзе былі свае, стрымліваючыя п'янства рычагі — у час пасяўной або ўборкі гарэлку наогул у наш сельмаг не завозілі, а тых, каго бачылі нецвярозымі ў рабочы час, пазбаўлялі даволі значных даплат, выкрэслівалі з чаргі на кватэру. Адзіную ў вёсцы самагоншчыцу бабку Лукер'ю міліцыя трымала пад неаслабным кантролем. Было і яшчэ мноства спосабаў, каб неяк стрымліваць наступленне «зялёнага змея». А цяпер?

Наш сельмаг не адстае ад сталічнага магазіна — паліцы застаўлены бутэлькамі з рознымі этыкеткамі — хочаш, айчынную гарэлку купляй, хочаш, — замежную. Не хапае грошай — ідзі да вясковых «бізнесменаў». Куды той бабцы Лукер'і з яе прымітыўным самагонным апаратам і вечным страхам, што зловяць, аштрафуюць, пасадзяць у турму! Цяпер вытворчасцю самагонкі ў нас займаюцца маладыя мужчыны, маючы з гэтага вялікія прыбыткі. Да іх можна прыйсці ў любы час сутак і атрымаць запаветную бутэльку самагонкі. Няма грошай — дадуць напавер. І гоняць, і прадаюць не хаваючыся, нікога не баючыся. Ні міліцыі, ні сельскаму савету, ні праўленню калгаса да іх няма ніякай справы — цяпер жа дэмакратыя і ўласны бізнес трэба паважаць... Ну, а што гэтыя «бізнесмены» спойваюць вёску, сіроцяць дзяцей — да гэтага быццам бы і справы нікому няма.

Нашы вяскоўцы наогул да грошай вельмі абыякавыя — раней, да вайны, і доўгі час пасля вайны працавалі, лічы, задарма. Сёння таксама — і па два, і па тры месяцы не атрымліваюць зарплаты. Натуральная гаспадарка сяк-так дазваляе жыць. Ну, а на спіртное? За любую дапамогу адзінокім бабулькам або дачнікам мужчыны грошай не бяруць — патрабуюць расплачвацца бутэлькамі. Прэйскурант паслуг устойлівы і вядомы кожнаму. Бутэлькі, бутэлькі, бутэлькі... І бачу ўжо, як па вуліцы, кідаючыся з боку на бок, паўзе трактар з п'яным трактарыстам, як ліха нясуцца па гравійцы грузавікі — барані Божа, не сступіш у бок. Бачу, як па-заліхвацку скача на кані наш вясковы каўбой — гэта пастух Рыгор гоніць кароў з пашы і тыя, спужаныя, ашалелыя, галопам нясуцца па дарозе. Бачу, як, хістаючыся, ідуць дадому музыкі «са службы», і ўяўляю сабе, якая бацькоўская «цеплыня» і «пяшчота» чакае іхніх дзяцей дома...

Хто будзе спрачацца з тым, што раней маральнасць у вёсцы была намнога вышэйшая, чым у горадзе? Асноўныя хрысціянскія запаведзі для вяскоўцаў былі святыя. Не ўкрадзі — ды хто калі ў вёсцы зачыняў дзверы на замок — так, чыста сімвалічна прычынялі на зашчэпку, каб бачылі, што дома нікога няма. А цяпер — на два замкі, і не толькі ад чужых, але і ад сваіх, аднавяскоўцаў. Хто калі ў вёсцы мог падняць руку на састарэлых бацькоў? Цяпер могуць забіць з-за некалькіх грашовых паперак. Раней у вёсцы нараджэнне пазашлюбнага дзіцяці лічылася грахом — цяпер і ў гэтым вёска нават пераўзышла горад. А колькі п'яніц-вяскоўцаў пазбавілі бацькоўскіх правоў і дзяцей перадалі на ўтрыманне дзяржавы — але і гэта наўрад ці каго ўзрушвае: прывыклі. Аб якіх маральных прынцыпах, якіх унутраных стрымліваючых рычагах можна гаварыць, калі вяскоўцы співаюцца проста на вачах! Ды хіба такое адбываецца толькі ў маім Загор'і? Ездзіла да бацькоў на Віцебшчыну знаёмая, вярнулася, расказвае. Слухаю і не разумею — ці то пра сваю вёсачку яна гаворыць, ці то пра маё Загор'е, у якім ніколі не была. П'яныя з раніцы мужчыны і жанчыны, недагледжаныя дзеці, абшарпаныя хаты, паламаныя платы...

У якія дзверы стукацца, каб дапамаглі спыніць гэтую дэградацыю, каб знайшлі нейкія спосабы працверазіць нашы вёскі? Не ведаю. Толькі наўрад ці цяпер нават адміністрацыйнымі мерамі можна што-небудзь змяніць. Хіба звярнуцца да саміх людзей, паспрабаваць дастукацца да іх сумлення: мы ж жывём на зямлі дзеля нашых дзяцей і ўнукаў. А што бачаць яны? Скалечаныя алкаголем душы, скалечаную абыякавасцю зямлю. Ці не надта высокая плата за хвіліны п'янай весялосці? Ды і самі аматары выпіць — хіба яны прыйшлі ў гэты свет дзеля таго, каб валяцца пад плотам?

**С. ЯКАЎЛЕВА.**

## ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!!!

**Моцна просім не забывацца перасылаць гадавую АХВЯРУ на Выдавецкі Фонд нашае газэты. "Беларускі Дайджэст"— незалежная газэта выдаецца толькі дзякуючы вялікай ахвярнасьці людзей добрае волі. Калі ласка, просім, памятайце пра нас... Шчыра дзякуем!**